# Ніва

БЕЛАРУСКІ ТЫДНЁВІК




№ 49 (614) Год XII 3 снежня 1967 г. ЦАНА 60 гр.


## БГКТ

### НОВЫ ЗБОРНІК

Міма вялікіх фінансавых цяжкасцей Галоўнае праўленне Беларускага грамадска-культурнага таварыства развівае сваю выдавецкую дзейнасць. Зараз ужо зложаны да друку зборнік вершаў **Алеся Барскага.** Зборнік складаецца з чатырох частак і будзе называцца **«Жнівень слоў».** На першыя ўражанні аб новай жмені паэзіі нашага паэта трэба будзе пачакаць да наступнага года, таму што планы друкарні прадбачваюць закончыць друкаванне зборніка ў першым квартале 1968 г.

### КУПАЛАЎСКА-КОЛАСАЎСКІ ВЕЧАР

У гэтым годзе прыпадала 85-ая гадавіна з дня нараджэння Янкі Купалы і Якуба Коласа. 19 лістапада г.г. адбыўся ў клубе гарадскога аддзела БГКТ у Беластоку купалаўска-коласаўскі вечар, прысвечаны іменна гэтым двум песнярам беларускага народа.

Гутарку аб творчасці і аб жыцці Я. Коласа і Я. Купалы вяла **Вера Валкавыцкая.** Даклад В. Валкавыцкай выклікаў вялікае зацікаўленне сярод прысутных. Апрача характарыстыкі творчасці многа было інфармацый прысвечаных прыватнаму жыццю пісьменнікаў, што прычынілася да лепшага знаёмства прысутных з паэтамі. Дакладчык В. Валкавыцкая не абмежавалася толькі да гутаркі аб жыцці і творчасці, а сваю сустрэчу ілюстравала творамі вялікіх людзей беларускага літаратурнага слова.

Пасля гутаркі на памяць аб купалаўска-коласаўскім вечары рэд. В. Валкавыцкая ад імя рэдакцыі ўручыла кніжкі — зборнікі твораў успамянутых аўтараў.

Вечарына была добрая. Людзі задаволены. А сама форма хіба і з'яўляецца адной з тых, пры дапамозе якой мы можам знаёміць гарадскіх беларусаў з нашай нацыянальнай культурай.

### РЫХТУЕЦЦА «НАВУКОВЫ ЗБОРНІК»

Да друку рыхтуецца чарговы «Навуковы зборнік». Зараз ідзе яшчэ падрыхтоўчая праца і будзе яна працягвацца да канца 1967 г. Да гэтага тэрміну можна яшчэ прысылаць на адрас ГП навуковыя працы.

Змест новага зборніка прадбачвае беларускую праблематыку або эканамічна-культурнае жыццё Беласточчыны.

А. К.

### АКАДЭМІЯ Ў ВАРШАВЕ

12 лістапада г.г. у зале Дома савецкай культуры ў Варшаве Праўленні Варшаўскіх аддзелаў Беларускага і Літоўскага таварыстваў арганізавалі ўрачыстую акадэмію прысвечаную 50 гадавіне Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі.

З цікавым і змястоўным дакладам выступіў сакратар Варшаўскага аддзела БГКТ Віктар Швед.

Пасля даклада дэманстраваўся каляровы савецкі кінафільм «Вогненныя вёрсты» тэматычна звязаны з кастрычніцкімі падзеямі. Прысутных было звыш 200 асоб.

В.Ш.

### СВЯТЛО Ў МУЗЕІ

12 лістапада ў Беларускім музеі ў Белавежы было заложана новае электрычнае абсталяванне. Працавалі пры гэтым стажоры спулдзельні «Чын» у Гайнаўцы Е. Сідарук і А. Касакоўскі. Вялікую дапамогу аказала музею кіраўніцтва гайнаўскай спулдзельні «Чын» у асобах грамадзян Хіліманюка і Ваўрэшука, якія сарганізавалі і абяспечылі матэрыяламі ўсю работу. Наша ўдзячнасць тым большая, што святло ў музей правялі грамадскім чынам. Дзякуем усім тым, хто разумее патрэбы нашага музея і прыходзіць яму з дапамогай.

В. Гацута



**За вёскай Волькай над Бугам у Сямяціцкім павеце.** фота: В. Рудчык

## У Мілейчыцкай грамадзе

Мілейчыцкая грамада ахоплівае даволі вялікі кусок Сямяціцкага павета. Пад уладай яе Прэзідыума знаходзіцца 18 вёсак. Зямля тут аднак не найлепшага класа. У многіх вёсках усё яшчэ мучыць сялян праклятая імі цераспалосіца. Хіба таму трактар на палях Мілейчыцкай грамады сустрэць можна вельмі рэдка. У Сямяціцкім павеце знаходзіцца зараз 350 трактарных камплектаў. У Мілейчыцкай грамадзе ёсць іх усяго 14. Знаходзяцца яны ў пяці сельскагаспадарчых гуртках. 6 гурткоў маюць толькі малацілкі, конныя сеўнікі і некаторыя абпырсквальнікі. На працягу 1967 года ніводзін гурток не купіў сабе ні аднаго новага трактара, хаця ў гэтым кутку Сямяціцкага павета наглядаецца найменшую насычанасць сельскагаспадарчымі машынамі. Пераклаўшы гэтыя канцылярскія словы на звычайную мову зразумеем, што ў вёсках Мілейчыцкай грамады, як 10—15 год таму назад, гаспадар ходзіць за канём і плугам, сее з саламянай каробачкі і пільна сочыць за суседам, каб той не адараў лішнюю скібу з яго «васьмушкі» ці «чэцвяртушкі». Выходзіць на тое, што найбяднейшаму найменш даюць.

Павятовыя спецыялісты на аснове доўгіх радкоў лікаў «навукова» даказваюць, што ў сялян, якія жывуць ва ўсходніх раёнах Сямяціцкага павета, нізкая сельскагаспадарчая культура. Яны не ўмеюць, мабыць, карыстацца тэхнікай. І тут прыводзяць, на жаль, пераканаўчы прыклад з дзейнасці сельскагаспадарчага гуртка ў Мілейчыцах. Гэта найбуйнейшы гурток у грамадзе. Мае 5 трактарных камплектаў. Быў шосты, гусінічны, але хутка яго «заездзілі» і ўрэшце падаравалі сямяціцкаму праўленню мясцовых дарог. Кожны трактар мілейчыцкага сельгасгуртка працаваў у мінулым годзе ў сярэднім па 380 гадзін, значыць — больш-менш месяц часу. Рэшту часу або знаходзіўся ў ПОМ-е на рамонце, або прастаяў бескарысна.

Нічога тады дзіўнага, што ў Мілейчыцах наглядаецца ўзрост толькі ў адной галіне — **узрост сельскагурткоўскіх затрат.** У 1963 годзе налічвалася іх 66 тысяч злотых, год пазней — ужо 137 тысяч злотых, а за сёлеташняе паўгоддзе — 45 тысяч злотых.

Дрэннага гаспадара ніхто не паважае, а за такое гаспадаранне, як у Мілейчыцкім гуртку, павінен разлічваць пракурор. У Мілейчыцах пакуль што змянілі праўленне гуртка. Гавораць, што новае праўленне лепшае. Памалу адрабляе затраты сваіх папярэднікаў. А то дайшло было ўжо да таго, што мілейчыцкія гурткоўцы не мелі за што выкупіць трактараў пастаўленых на рамонт у ПОМ-е.

Найгорш, што на трактарах няма каму ездзіць. У Мілейчыцах не хапае трох трактарыстаў. І не толькі ў Мілейчыцах. У суседнім Паканеве трактары неяк працуюць, але аніводзін трактарыст не быў на курсе і не мае права на кіраванне трактарам. Гэта тут агульная балячка. Трактары знаходзяцца ў руках людзей, якія непасрэдна на полі навучыліся запускаць іх і перакладаць рычагі хуткасці. Больш нічога. Аб ашчадным і разважным выкарыстанні дарагой тэхнікі пры такіх умовах працы можна толькі марыць. Трактары дачасна выходзяць са спраўнасці, адстаўляюць іх на рамонт, гуртку нарастаюць уласныя кошты, якія пераходзяць у затраты. Замыкаецца нейкі дзіўны круг прычын і паслядоўнасці, гурток мае затраты, бо дрэнна працуе, дрэнна

(Працяг на стар. 4)




Не вер дзяўчына
што ты не прыгожая
так могуць сказаць
толькі вусны варожыя
і непрыхільныя
несправядлівыя
злосныя вусны
вусны ілжывыя
не вер дзяўчына
што ты не харошая
я цябе бачыў з сярпом на загоне
у белай касынцы
у чырвоны гарошак
ты жыту складала
святыя паклоны
рукі узляталі
як лебедзі белыя
моцна трымалі
калосікі спелыя
і зноў ныралі
у жытню хвалю
працы шукалі
не вер дзяўчына
што ты не чароўная
я бачыў як грудзі
пругкія поўныя
валошкай умаіла
вырванай з жыта
і твар свой абмыла
вадой недапітай
ні разу не села
ля сіняга вечара
і да хаты прышла
са змрокам на плечах
і песню прынесла
ціхую гожую
не вер дзяўчына
што ты непрыгожая.

Алесь Барскі

## ТАЙНА КАНАРЫСА

**Гэта новая кніга Аляксандра Насібава. Чытачы напэўна памятаюць яго «Тайнік на Эльбе», які мы ў свой час друкавалі. У новай кнізе аўтар зноў звяртаецца да малавядомых старонак і тайнаў другой сусветнай вайны. Гэтым разам да чалавека тарпед, якімі нацысты спадзяваліся расправіцца з Еўропай. Насібаў адкрывае нам самую пячору ільва. Бачым яе вачыма савецкага разведчыка, які трапіў туды і які перажывае драматычныя дні. Словам кніга, якія любяць нашы чытачы, кніга, якая чытаецца з узрастаючай цікавасцю, кніга, якую трэба прачытаць абавязкова.**

**«Тайну Канарыса» пачнем друкаваць ад Новага года. Дарагі чытач, неадкладна выпішы «Ніву» на 1968 год. Апрача тайнаў другой сусветнай вайны, даведаешся з «Нівы» шмат іншых цікавых звестак. Гадавая цана падпіскі на «Ніву» 28 зл. 80 гр.**



# Падзеі • Здарэнні • Факты • Каментарыі • Весткі

## СВЕТ

### АБ ШВЕЦЫІ

Кантакты Польшчы з краінамі Скандынаўскага паўвострава развіваюцца. У апошнім часе заграгічная прэса прымяняе такія словы як «скандынаўская вясна» у Польшчы, што звязана з кантактамі ў розных галінах між скандынаўскімі краінамі і Польшчай. Нядаўна пабываў у Польшчы прэм'ер Швецыі **Эрландэр.** У сувязі з гэтым візітам падаем некаторыя звесткі аб гэтай краіне.

Каралеўства Швецыі — такая назва дзяржавы — займае плошчу велічынёй 449,8 тысяч кв. кіламетраў. У 1966 г. налічвала 7.844 тысячы насельніцтва (у 1955— 7.290 тысяч). Сталіцай Швецыі з'яўляецца Стакгольм. Каралеўства Швецыі падзелена ў сэнсе адміністрацыйным на 25 правінцый і 3 выдзеленыя гарады. Грашовай адзінкай з'яўляецца 1 карона шведская, якая раўняецца 0,194 долара Злучаных Штатаў. Калі разыходзіцца аб нацыянальнасці, дык 97% складаюць шведы. Пануючай рэлігіяй з'яўляецца пратэстантызм. У сельскай гаспадарцы працуе ўсяго 8% насельніцтва, 44% працуе ў промысле і будаўніцтве, а 28% у гандлі і транспарце.

Ад 1950 г. галавой дзяржавы ёсць кароль Густаў VI Адальф. Асноўнай урадуючай партыяй з'яўляецца **Шведская сацыялдэмакратычная рабочая партыя** (ССАП), на чале якой стаіць Эрландэр. Трэба дадаць, што Камуністычная партыя ў апошніх выбарах на многа павялічыла колькасць мандатаў.

У ССАП заўважыліся радыкальныя тэндэнцыі, якія выявіліся перад усім у 1966 г. у заграгічнай палітыцы. Прэм'ер Эрландэр пачаў распаўсюджваць палітыку нейтральнасці. Пасля ўзросту эскалацыі в'етнамскай вайны Швецыя перасцерагла, што пагражае гэта небяспечнымі канесквенцыямі для ўсеагульнага міру. На канферэнцыі міністраў замежных спраў скандынаўскіх краін у Стакгольме, Швецыя выказалася за ўдзелам Фронту нацыянальнага вызвалення Паўднёвага В'етнама ў перагаворах з ЗША.

Суадносіны з Польшчай развіваюцца ў галіне гаспадарчай, культурнай і тэхнічнай. Абодва ўрады выказаліся за скліканнем міжнароднай канферэнцыі прысвечанай бяспецы Еўропы і безатамных зонаў у Еўропе.

Гандлёвы абмен між Швецыяй і Польшчай абапіраецца на трактаце ад 1924 г., які прызнаваў двухбакова клаузулу найвялікшай прывілеіі. Зараз абавязвае 3-гадовы дагавор. У 1965 г. Швецыя экспартавала ў Польшчу за 27,8 мільёнаў долараў ЗША, а імпартавала — за 32,1 мільёна долараў Злучаных Штатаў.

### НАРОДЫ І МОВЫ

На зямным шары пражывае 1.300 народаў. Людзі свету карыстаюцца зараз аж 3.000 мовамі. У межах аднаго народа людзі карыстаюцца часам некалькімі мовамі, якія надта розняцца між сабой. Такія даныя прыводзяць аўтары «Атласа народаў свету» выдадзенага ў СССР. Як прыклады падаецца тут, што у Судане карыстаюцца 117 мовамі, у Конга — 500, а ў Індaнезіі — 250 мовамі.

А. К.

## БССР

### МІЛІЦЫІ

Свята 50-годдзя савецкай міліцыі адзначана на Беларусі. У Мінску адбыўся вялікі ўрачысты сход, у якім удзельнічалі кіраўнікі Беларусі — **П. Машэраў, Ц. Кісялёў, С. Пілатовіч, С. Прытыцкі,** начальнік беларускай міліцыі **П. Жук.**

З дакладам **«50 гадоў савецкай міліцыі»** выступіў міністр аховы грамадскага парадку БССР **А. Клімаўскай.**

Беларускае ЦК, Прэзідыум Вярхоўнага Савета Беларусі і Савет Міністраў БССР звярнуліся з прывітаннем да працаўнікоў міліцыі і іх супрацоўнікаў.

### ВІЦЕБСКАЯ

Віцебская газета **«Віцебскі рабочы»** ўзнагароджана ордэнам Працоўнага Чырвонага Сцяга.

### ДЫСЕРТАЦЫЯ

А. Раковіч напісаў дысертацыю — **«Дзейнасць КПБ па развіцці кнігавыдавецкай справы ў рэспубліцы ў пасляваенны час (1946—1965 г.г.)».** Аўтар аналізуе напрамкі беларускай выдавецкай дзейнасці і кальпартажу кніжак. пакавае добрае і дрэннае ў гэтай дзейнасці. Чытач можа спадзявацца вялікай дозы аб'ектывізму ў гэтай навуковапазнаўчай працы Раковіча.

### ПАМЯЦЬ

У беларускай сталіцы адзначана стагоддзе з дня нараджэння геніяльнай польскай вучонай Марыі Складоўскай-Кюры. Урачыстасць адбылася ў актавай зале Беларускага дзяржаўнага універсітэта. Даклад мела Л. Саковіч, навуковая супрацоўніца Інстытута ядзернай энергетыкі Беларускай Акадэміі навук. Дакладчыца расказала аб жыцці і дзейнасці вялікай палячкі. Затым адбыліся даклады — аб ролі атамных электрастанцый у развіцці сучаснай энергетыкі, аб радыяцыйнай хіміі.

### «ПЕРАМОГА»...

Беларускае выдавецтва «Навука і тэхніка» выпусціла кніжку на беларускай мове — **«Перамога Савецкай улады ў Беларусі».** Гэта першая сур'ёзная праца па гісторыі падрыхтоўкі і правядзення Кастрычніцкай рэвалюцыі ў Беларусі.

### МУЗЕЙ

«Літаратура і мастацтва» выступіла з ініцыятывай стварэння беларускага музея архітэктуры, дзе былі б сканцэнтраваны ўсе каштоўныя ў гістарычных і мастацкіх адносінах праектныя матэрыялы — перспектывы, малюнкі, макеты.

### ПАВЕДАМЛЕННІ

Штораз часцей можна прачытаць у беларускіх газетах паведамленні наконт узаемасувязей паміж Гродзеншчынай і Беласточчынай. Апошнім часам вялікае зацікаўленне выклікала выстаўка народнай творчасці Беласточчыны, якая была сарганізавана ў Гродне. Падабалася і захапляла на гэтай выстаўцы літаральна ўсё.

З беларускага друку даведваемся таксама, што неўзабаве наведае Гродна беластоцкі тэатр імя Аляксандра Вянгеркі. Гэта будзе рэвізіт пасля выступленняў у Беластоку рускага тэатра з Гродна.

(С.Я.)

## ПОЛЬШЧА

### X ПЛЕНУМ

24.XI. адбылося ў Варшаве Пленарнае пасяджэнне ЦК партыі прысвечанае актуальным праблемам забеспячэння рынку прадуктамі харчавання. Пленум прыняло пастанову наступнага зместу: «ЦК ПАРП сабраны дня 24 лістапада 1967 г. на X пленуме пасля заслухання даклада Палітычнага бюро і прамовы I сакратара ЦК Уладзіслава Гамулкі, пастанавіў зацвердзіць прапановы ў справе павышэння цэнаў мяса і абніжэння цэнаў некаторых артыкулаў харчавання».

### ЦЭНЫ

Ад 26 лістапада на падставе пастановы Эканамічнага камітэта Рады Міністраў павышана цэны мяса, мясных прадуктаў і сала. Цэны свініны ўзраслі ў сярэднім на 17 прац., ялавічыны ў сярэднім на 16 прац., цяляціны — у сярэднім на 33 прац., мясных прадуктаў (каўбаса, кансервы і г.д.) — у сярэднім на 17 прац. і сала — у сярэднім на 9 прац. У большай прытым ступені павышана цэны больш вартасных элементаў мяса, чымсьці частак менш вартасных. Не ў аднолькавай ступені павышана таксама цэны каўбас. Так, напрыклад, новая цана каўбасы звычайнай зараз 44 зл. за кілаграм, сэрдэлёвай — 40 зл., сніданёвай — 40 зл., кракаўскай — 90, жэшоўскай — 58 зл., жывецкай — 60 зл.

Ад 26 лістапада ўведзена таксама новыя абніжаныя цэны тлушчу (28 і 30 зл. за кілаграм), маргарыну (26 зл. за кілаграм), цукру (10,50 і 12 зл. за кілаграм).

### ДАКЛАД

У дакладзе Палітычнага бюро зачытаным на апошнім X Пленуме партыі аналізуецца падрабязна даходы насельніцтва і забеспячэнне рынку ў 1960—1967 гадах. З дакладу вынікае, што агульны фонд заработкаў узрос з 141,2 мільярда злотых у 1960 годзе, да 234,9 мільярда ў 1967. Адначасова аднак з павышэннем заработкаў узрасталі кошты ўтрымання, у выніку падвыжак рознага тыпу цэнаў. Агульна беручы, кошты ўтрымання ўзрасли за гэтыя гады на 14,8 працэнта, гэта значыць узрасталі ў сярэднім на 2 прац. у год. У выніку аднačасовага дзеяння гэтых двух працэсаў і ўзросту намінальнай заработнай платы і ўзросту коштаў утрымання, які вынікаў з узросту цэнаў, сапраўдныя, рэальныя даходы насельніцтва ўзраслі ў 1960—1967 гадах на каля 48 працэнтаў. Для прыкладу, даклад падае пералік колькасці 50 рознага роду прадуктаў, якія можна купіць за сярэдні месячны заработак жыхара Польшчы ў 1960 і 1967 гадах. У вялікай большасці выпадкаў за сярэдні заработак можна зараз купіць на каля 30 прац. больш прадуктаў, чамсьці ў 1960 годзе. Вялікая частка ўзрастаючых даходаў насельніцтва прысвечвалася менавіта на пакупку мяса. У сувязі з тым запатрабаванне на мяса ўзрастала хутчэй, чымсьці магчымасці забеспячэння ў яго дзяржавай. Пачаў выступаць недахоп мяса ў крамах. У сувязі з тым неабходнай сталася падвыжка цаны мяса.

П. В.

## ВАЯВОДСТВА

### КАНФЕРЭНЦЫЯ ЗМС

У Беластоку адбылася VII-ая ваяводская справаздачна-выбарчая канферэнцыя Саюза сацыялістычнай моладзі. ЗМС у Беластоцкім ваяводстве згуртоўвае зараз 20 тысяч членаў. У канферэнцыі прыняло ўдзел 120 дэлегатаў і гасцей, сярод якіх, між іншымі, былі: I сакратар ВК ПАРП А. Лашэвіч і сакратар Галоўнага праўлення ЗМС — тав. Ян Май. Дэлегаты крытычна ацанілі дзейнасць сваёй арганізацыі, абмеркавалі іе праграму на бліжэйшыя гады і выбралі членаў Ваяводскага праўлення. Старшынёй ВП ЗМС стаў Мікалай Казак.

### НЯШЧАСЦЕ З ЗУБРАМ

У Белавежскай пушчы нейкі браканьер заставіў спецыяльную пятлю са стальной лінкі, у якую папаў зубр. Няшчаснага зубра заўважыў адзін селянін з вёскі Тапіла, які зараз паведаміў надляснічства ў Старыне і дырэкцыю Белавежскага запаведніка. На жаль раз'юшаны зубр не падпускаў да сябе людзей. Вырваў бярозу, да якой быў прывязаны, і ўцёк у пушчу. Пасля ляcная служба сцвердзіла, што зубр сам уволіўся ад стальной пятлі. Следства ў гэтай справе вядзе гайнаўская пракуратура.

### ВОДАПРАВОД

Сяляне з вёскі Радзішэва-Сеньшух у Сямяціцкім павеце рашылі ўласнымі сіламі пабудаваць водапровод. У вёсцы грамадскім чынам пабудавана дагэтуль святліцу, вясковую краму, злеўню малака, загаспадаравана вясковую вуліцу, а ў гонар 50-годдзя Кастрычніцкай рэвалюцыі шмат часу жыхары вёскі працавалі ля пабудовы брукаванай дарогі.

### ПГР МІКІЦІН

...які знаходзіцца ў Манецкім павеце, на працягу 3-х мінулых год пастаянна дабіваецца сярэдняга ўраджаю чатырох збожжавых культур на 25—28 цэнтнераў з аднаго гектара. Летась ПГР Мікіцін атрымаў з аднаго гектара: азімай пшаніцы — 26 ц., ярай — 30 ц., а жыта — 26 ц. ПГР гаспадарае ў асноўным на землях IV і V класаў.

### КРОЎ

300 рабочых металаапрацоўчай фабрыкі ў Чорнай Беластоцкай ганарова аддалі сваю кроў. Першым ганаровым даўцам крыві быў у фабрыцы яе дырэктар інж. Ежы Тэрлецкі.

### ПАДАРУНАК МІЛІЦЫЯНЕРАЎ

Міліцыянеры ваяводскай камендатуры МО ў Беластоку ўстанавілі тры ашчадныя кніжкі ПКО на 8 тысяч злотых, кожная з прызначэннем на пакупку спулдзельчых кватэр для сірат пасля міліцыянераў і працаўнікоў бяспекі, якія загінулі ў барацьбе з бандамі.

### КНІЖКІ

Ва ўсёй краіне ў днях 23—30 лістапада адзначаецца «дэкада грамадска-палітычнай кніжкі». З гэтай нагоды ў Беластоку была наладжана выстаўка кніжак на палітычна-грамадскія тэмы. Кніжкі, якія дэманстраваліся, выдала дзяржаўнае выдавецтва «Іскры».




**NIEDZIELA, 3.XII.**

9.05 Program dnia. 9.10 TV Kurs Rolniczy: ,,Wychów cieląt i jałowizny''. 9.45 ,,Przypominamy, radzimy''. 10.00 ,,Po salach Państwowego Muzeum im. A. Puszkina. 10.30 PKF. 10.40 ,,Koń, który mówi'' — film. 11.10 ,,Szczęść Boże, Dziadku Gumiela'' — film pol. 11.40 Dziennik. 11.50 ,,PROM'' — koncert muzyki popularnej. 12.30 Dla dzieci: S. Prokofiew — ,,Kopciuszek''. 13.30 Sprawozdanie sportowe. 15.00 ,,Wszystko o węglu'' — teleturniej. 15.40 ,,Przemiany''. 16.10 ,,Ludzie i zdarzenia''. 16.30 ,,Teatr Telewizyjny na świecie'' — ,,Kubo''. 17.55 Międzynarodowe zawody w łyżwiarstwie figurowym o Puchar Przyjaźni. 18.55 ,,Piórkiem i węglem''. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 ,,Na głowie'' — program rozrywkowy. 21.05 ,,Panowie w cylindrach'' — film fab. USA. 22.40 Niedziela Sportowa.

**PONIEDZIAŁEK, 4.XII.**

14.30 Hokej: Kanada — CSRS. 16.30 Przerwa. 16.50 Program dnia. 16.55 Dziennik. 17.00 ,,Kino Ptyś''. 17.15 Dla młodych widzów: ,,Zrób to sam''. 17.30 ,,Eureka''. 18.05 ,,Spacerkiem po kinach''. 18.35 ,,Skąd przychodzi słońce'', film Tele-Aru. 18.50 ,,Poligon''. 19.20 ,,Dobranoc''. 19.30 Dziennik. 20.05 Teatr TV: ,,Nie igra się z miłością'' Alfreda de Musset. ok. 21.35 ,,Wielki węgiel''. 22.00 Dziennik. 22.15 Program na jutro. 22.20 Politechnika TV.

**WTOREK, 5.XII.**

8.25 ,,Echo'' — film fab. pol. 10.00 Dla szkół (kl. III) ,,Czysta buzia, czyste ręce''. 10.20 Przerwa. 11.00 Dla szkół (kl. IV) ,,W najstarszej kopalni Polski''. 11.20 Przerwa. 11.55 Dla szkół (kl. XI) Język polski: St. Żeromski ,,Uciekła mi przepióreczka''. 12.30 i 15.15 Przysposobienie Rolnicze: ,,O czym mówiono na IX Plenum KC PZPR. 13.05 Hokej: ZSRR — CSRS. 15.10 Program dnia. 15.50 i 22.35 Politechnika TV. 16.55 Dziennik. 17.00 Dla młodych widzów: ,,Fizyka na piątkę''. 17.30 Dla młodych widzów: ,,Zapraszam na wtorek wieczór'' — wizyta u olimpijczyka, pułkownika K. Suskiego. 18.00 ,,Nie tylko dla pań''. 18.20 ,,Salida'' — film estradowy bułg. 18.35 TV Kurier Warszawski. 18.50 ,,Wiem wszystko'' — teleturniej. 19.20 ,,Dobranoc''. 19.30 Dziennik. 20.05 ,,Po szóstej''. 20.45 ,,Echo'' — film fab. pol. 22.15 Dziennik.

**SRODA, 6.XII.**

10.00 Film fabularny fiński. 11.55 Dla szkół (kl. VIII) Fizyka ,,Elektroliza''. 12.25 Przerwa. 15.40 Program dnia. 15.45 i 22.50 Politechnika TV. 16.25 i 23.25 Politechnika TV. 16.55 Dziennik. 17.00 ,,Finlandia dzisiejsza'' — film fiński. 17.25 Hokej: ZSRR — CSRS. 18.00 ,,Telekram''. 18.10 ,,Śladami reniferów'' — film radz. 18.25 Wszechnica TV: ,,Między nami ludźmi — konflikty moralne''. 18.50 ,,Gawędy muzyczne'' prof. S. Śledzińskiego (,,Historia muzyki''). 19.20 ,,Dobranoc''. 19.30 Dziennik 19.50 ,,Bardzo starzy oboje'' — film tv pol. 20.15 ,,Światowid''. 20.40 Sprawozdanie sportowe. W przerwie — PKF. 22.30 Dziennik.

**CZWARTEK, 7.XII.**

9.55 Dla szkół (kl. VIII) ,,Narodziny faszyzmu i hitleryzmu''. 10.25 Przerwa. 12.45 Dla szkół (kl. X) Język polski: ,,Byron-Goethe-Puszkin''. 13.20 Przerwa. 15.40 Program dnia. 15.45 i 22.05 Politechnika TV. 16.55 Dziennik. 17.00 Dla młodych widzów: ,,Ekran z bratkiem''. 18.05 ,,Na morskich szlakach''. 18.30 Koncert Orkiestry Kameralnej Pro Musica. 19.20 ,,Dobranoc''. 19.30 Dziennik. 20.05 ,,Portret miasteczka''. 20.30 ,,Rodzinny dramat'' (,,Alfred Hitchcook przedstawia'') — film tv ang. 21.20 ,,Dzieci'' program historyczny. 21.45 Dziennik.

**PIĄTEK, 8.XII.**

9.55 Dla szkół (kl. lic.) Wychowanie obywatelskie — Magazyn ,,Panorama''. 10.30 ,,Poławiacze gąbek'' — film fab. radz. 11.55 Dla szkół (kl. V) Wychowanie plastyczne ,,Cwiczenia rzeźbiarskie''. 12.25 Przerwa. 15.40 Program dnia. 15.45 i 22.55 Politechnika TV. 16.55 Dziennik. 17.00 ,,Miś z okienka''. 17.15 ,,Wielka przygoda''. 17.40 ,,Wizyta w Dusznikach'' — rep. filmowy. 17.50 ,,To, co najlepsze''. 18.15 TV Kurier Mazowiecki. 18.30 Wszechnica TV: ,,Klub opowieści z myszką'' — ,,W zdrowym ciele zdrowy duch''. 19.00 ,,Wielokropek''. 19.20 ,,Dobranoc''. 19.30 Dziennik. 20.05 ,,Ciąg dalszy'' — program publicystyczny. 20.40 Teatr TV: ,,Sala nr 6'' A. Czechowa. 21.55 ,,10 minut recenzji''. 22.05 Magazyn Medyczny. 22.35 Dziennik.

**SOBOTA, 9.XII.**

9.15 ,,Soledad'' — film fab. fr. 10.55 Dla szkół (kl. V) Geografia: ,,Depresje w Europie''. 11.25 Przerwa. 11.55 Dla szkół (kl. VII) Zoologia: ,,Znaczenie gospodarcze owadów''. 12.25 Przerwa. 13.30 Kurs Zastosowań Metod Matematycznych w Gospodarce. 14.00 Przerwa. 15.35 Program dnia. 15.40 TV Kurs Rolniczy: ,,Pytania i odpowiedzi''. 16.15 ,,Saneczkowanie'' (,,Wychowanie fizyczne naszych dzieci''). 16.30 Program Tygodnia. 16.50 Dziennik. 17.00 Dla młodych widzów: ,,Dla każdego coś miłego'' (Warszawa — Moskwa). 17.55 ,,Spotkania z przyrodą''. 18.20 ,,Tele-Echo''. 19.20 ,,Dobranoc''. 19.30 ,,Monitor''. 20.10 ,,Żółw i zając'' (,,La Fontaine wiecznie żywy'') film. 20.40 VII program Tele-Variete pt. ,,Na maskaradę''. 21.50 Dziennik. 22.05 Wiadomości Sportowe. 22.15 ,,Soledad'' — film fab. franc.




**Piątek, 1 grudnia**

14.25 Program dnia. 14.30 Dziennik. 14.35 ,,Puszkin''. Film dokumentalny. 15.15 Język ang. dla przedszkolaków. 15.40 Dla uczniów o szachach. 16.00 Dziennik. 16.20 Na fali muzycznej 16.30 Utwory Jakuba Kołasa czyta zasłużony działacz kultury BSRR A. Slesarenka. 17.00 Hokej: ZSRR —1 — ZSRR — 2. 19.15 ,,Sztafeta nowin''. 20.15 ,,W świecie tańca''. 21.10 Dla studentów.

**Sobota, 2 grudnia**

6.00 Dla studentów. 8.00 Dla uczniów szkół technicznych. 9.00 ,,Rady — władza ludowa''. 9.30 Język ang. dla przedszkolaków. 9.50 Film dla szkół. 14.40 Program dnia. 14.45 Dziennik. 14.50 Dla przedszkolaków. 15.05 ,,W 26-go nie strzelać''. Film. 16.40 Dziennik. 17.00 A. Twardowski. ,,Wasil Ciorkin''. Spektakl teatralny. 19.30 Przed olimpiadą. 20.10 ,,Estrada — 67''.

**Niedziela, 3 grudnia**

7.55 Program dnia. 8.00 Gimnastyka. 8.30 Film TV. 9.00 Dla młodzieży. 10.00 W muzeum sztuki im. Puszkina. 10.30 Koncert dla dzieci. 11.00 ,,Białe i czarne''. 11.30 Szkatułka Muzyczna. 12.00 Telewizja barwna. 13.30 Dziennik. 13.45 ,,Wołajcie Marcina''. Film. 15.00 ,,K. Simonow — dramaturg filmowy''. 16.15 Kronika półwiecza. ,,Rok 1952''. 17.00 Hokej. ZSRR — 1 — Kanada. 19.10 ,,Ogoniok''. 20.10 ,,Szara choroba''. Film.



**Тут канчаюцца Чараўкі і пачынаюцца Кажаны.**

Уласціва не ведаю, ці Кажаны існуюць на свеце, ці іх няма ўвогуле. У кожным выпадку Кажаны не фігуруюць ні на нашых картах, ні ў спісах адміністрацыйных улад. Бо адміністрацыйна невялікая вёсачка Кажаны прыдзелена да суседняй вёскі Чараўкі і складае з ёю адно чараўкоўскае салэцтва.




Як бы гэта не было дзіўным, але Кажаны, якія зараз пазбаўлены нават рангу вёскі, у мінулым называліся «мястэчкам» і мелі некаторыя сапраўды гарадскія прывілеі. У архіве рыбалаўскай царквы захаваўся дакумент, якога змест наступны:

«Ян трэці Божай міласцю Кароль Польскі, Вялікі Князь Літоўскі, Рускі, Прускі, Мазавецкі, Жмудскі, Інфлянцкі, Кіяўскі, Валыньскі, Падольскі, Падляшскі, Смоленскі, Северскі і Чарнігаўскі.

Абвяшчаю гэтым нашым лістам-прывілеям усім увогуле і кожнаму паасобна, каму б гэта належала ведаць, што мы па каралеўскай міласці і добраахвотнасці, лічачы справай прыстойнай пабольшваць багацце і дабрабыт сваіх падданых з увагі на захады шляхэтных Станіслава і Іусціны Ракавічаў (тагачасных уладальнікаў Кажан — П), ахвотна згадзіліся на тое, каб у іх мястэчку Кажанах распаложаным у Бельскай зямлі дазволіць штотыднёвую ярмарку для адміністрацыі мястэчка і для ўсяго паспольства, пачынаючы з дня св. Спаса, г. зн. Праабражэння Гасподняга, — аднак без ушчэрбку іншым гарадам і мястэчкам. На кірмашы гэтым да адзначанага мястэчка можна прыязджаць купцам усялякіх нацый і усялякіх слаёў людзям, праводзіць абмен усялякімі таварамі і свабодна заключаць усялякія кантракты; забараняецца дапускаць сюды толькі такіх людзей, якія дзяржаўнае права не дапускае да суадносін з добрымі людзьмі. Аднака правы нашы і рымска-каталіцкага касцёла павінны сцерагчыся непарушыма. Для гэтага падпісаў нашаю рукою. Мы прыказваем прыпячатаць пячаткай Вялікага Княства Літоўскага.

Дадзена ў Яварове 11 чэрвеня года Гасподня 1687, панавання нашага 13. Ян Кароль.»

Зараз ніхто ў Кажанах не ведае, дзе быў рынак, на якім адбываліся ўспамянутыя ў дакуменце кірмашы, ніхто не памятае нават, дзе стаяла карчма, у якой падхмельваліся прыехаўшыя на рынак купцы і мясцовыя сяляне. Кажаны зараз — гэта толькі невялікая частка вёскі Чараўкі, неразрыўна звязаная з Чараўкамі супольным грамадскім і гаспадарчым жыццём — і пісаць аб Кажанах нельга інакш, як толькі пішучы аб Чараўках увогуле.

У вёсцы была ў свой час спулдзельня прадукцыйная. Спулдзельня была параўнальна багатая і аставіла па сабе назаўсёды некалькі памятак: абшырны спартыўны стадыён, і абшырную школу і гаспадарчыя забудаванні. Як ні дзіўна, але ўласцівае выкарыстанне знайшлі толькі гэтыя апошнія. Пасля ліквідацыі спулдзельні сарганізавана тут Прадпрыемства гадоўлі качак, у якім прадукуецца каля 40 тысяч качанят у год.

Пабудавана спулдзельняю школа зроблена ўсё ж такі крыху на выраст. Хаця вучацца тут дзеці з некалькіх



**У Кажанах, як і ў іншых вёсках, новае па-суседску са старым.**

суседніх вёсак, аднак замала іх тут, каб асветныя ўлады маглі дазволіць на вучобу ў адзіночных класах. У Кажанах вучаць у спалучаных класах. Пры такой арганізацыі працы школы аграмадны школьны будынак астаецца ў значнай ступені нявыкарыстаным. Можна было б тут сарганізаваць нейкі клуб ці святліцу, але недахоп моладзі, якая выехала ў горад пераважна вучыцца, не дазваляе разгарнуць якой-небудзь культурнай дзейнасці. Ды наогул у Кажанах і Чараўках убогасць, ці больш за ўсё адсутнасць усялякага маладзёжнага ці культурнага жыцця. Стадыён і той парос пустазеллем і збіраюцца на ім тут мабыць толькі вароны.

Жывуць тады сяляне ў Кажанах ціха і спакойна без асаблівых прыемнасцей але і без вялікіх клопатаў. Выкарыстоўваюць, як умеюць, грошы, якія згортваюць, як і ў іншых наднараўскіх вёсках, з агуркоў ды трускалак. Мала хто ведае аб іх жыцці, мала хто ведае аб існаванні вёскі Кажаны ўвогуле. І толькі з пажоўклай запыленай паперкі, схаванай у цёмных закамарках пахучых старыной архіваў даведваемся, што аб Кажанах гаварылася калісьці і пісалася ў каралеўскай канцылярыі вялікай Рэчыпаспалітай.

**Ул. Паўлючук**



**На кажанскім панадворку.**

Фота: аўтар

**Міхаіл Табарыскі**




**КРЫНКАЎСКАЯ ГІСТОРЫЯ 1)**

Міхаіл Табарыскі быў выдатным дзеячам Камуністычнага саюза моладзі Заходняй Беларусі і КПЗБ. Дзейнічаў у розных партыйных акругах, між іншым, і ў Беластоку. Вось яго ўспаміны з раённай канферэнцыі, якую ён праводзіў у Крынках, 15 снежня 1931 года.

Была гэта своеасаблівая партыйная канферэнцыя. Другой такой я не памятаю. Адбывалася яна на могільніку. Некалькі сцежак, працертых у глыбокім снезе, вяло да месца збору. У невялікай катлавіне на магілах расселася каля 20-ці таварышаў. Дрэвы і гурбы снегу скрывалі нас ад непажаданых вачэй. Дарогі пільнавалі вартавыя.

Падпольшчыкі акутваліся кажухамі, апускалі навушніцы і зацягваліся папяросамі, грэліся. І я не адчуваў холаду, хаця апрануты быў у тоненькае пальтэчка, летнюю фуражку і халодныя туфлі.

У Крынкі накіравала мяне таварыш «Шура», інструктар Цэнтральнага Камітэта КПЗБ, па-сапраўднаму Люба Рудніцкая, якая зараз жыве і працуе ў Варшаве. Гэта яна мела правесці гэтую крынкаўскую канферэнцыю, але палітычная паліцыя натрапіла на след нашай дзейнасці і ва ўсёй Гродзенскай акрузе правяла масавыя арышты. «Шура» не магла там паказацца. Яе пазналі б. «Шуру» ведаў я яшчэ з Вільні, дзе мы супольна дзейнічалі ў падполлі. На гэты раз сустрэліся мы ў Беластоку. Ішлі заснежанай вуліцай, як пара закаханых, і гаварылі:

— «Шура», ты ўсур'ёз? — сказаў я. — Падумай, як яны мяне прыймуць, такога дваццацігадовага смаркача? Ці аўтарытэт партыі...

«Шура» спыніла мяне:

— Будзеш для іх, «Яшка», не смаркачом, а сакратаром Акруговага камітэта камсамола, — гаварыла, гледзячы мне ў вочы. — Аўтарытэту партыі не мераць гадамі жыцця. За табой багаты вопыт з Вільні, з Беластоцкай акругі. Маеш абавязак і можаш ім шмат чаго цікавага расказаць. То ж усяго 3 тыдні таму назад ты гутарыў з сакратаром Цэнтральнага Камітэта камсамола з таварышам «Андрэем» (Маслоўскі Н.П.), а тут, у Беластоку меў час завучыць пастановы V-га Пленума ЦК КПЗБ. Чаго ж табе трэба? Ды няма аб чым гаварыць! Хтосьці мусіць паехаць. Канферэнцыя назначана, ды не было і няма магчымасці яе адклікаць.

У вёсках крынкаўскага раёна аказалася на свабодзе яшчэ 30 членаў КПЗБ, а ў самых Крынках — 7 членаў партыі і 12 камсамольцаў. Іх не запалохала славутая сваімі зверствамі турма гродзенскай дэфензівы.

Урэшце я неяк закончыў сваё выступленне. Пачаліся спрэчкі, гаварылі ўдзельнікі сходу — палякі, беларусы і яўрэі з Крынак і наваколля, характарызавалі рэвалюцыйныя настроі сялян, асабліва ў наваколлі Бераставіцы.

— Ураджай летась быў слабы, — паднёс вочы з-пад бараніцы нейкі селянін. — Але і гэтае, што мы сабралі, прыдзецца аддаць на падаткі і штрафы.

— Галеча ў вёсках паглыбляе беспрацоўе ў гарадах, — заявіў адзін крынкаўскі гарбар. — Хаця б у нас: у нашых гарбарнях працуем мы «у кратачку». Дарэмна на заказы чакаюць шаўцы і краўцы. Стаяць цагельні і кафлярні.

Я ведаў, гэта эканамічны крызіс, які працягваўся ўжо трэці год, паказваў свае зубы. Цешыліся толькі памешчыкі, бо маглі прагнаць парабкаў, а на іх месца шмат танней наняць да працы галодных сялян. Але вось адазваўся сакратар крынкаўскай раённай арганізацыі Камуністычнага саюза моладзі Заходняй Беларусі:

— Сярод моладзі наглядаўся вялікі ўздым у сувязі з Міжнародным днём моладзі і 13-тай гадавінай Вялікай Кастрычніцкай рэвалюцыі. Першага жніўня ў тайным мітынгу прыняло ўдзел 45 юнакоў, іншым разам 60 камсамольцаў і іх сябраў дэманстравала супраць агрэсіўнай палітыкі польскага ўрада, які рыхтуе вайну з Савецкім Саюзам. Маладыя найбольш адчуваюць палітычны прыгнёт. Вучань тэрмінатар крынкаўскіх краўцоў першы год працуе без зарплаты. На другі год майстар плаціць яму ледзь 3 зл. у тыдзень. А калі ўжо атрымае дыплом чаляндніка — гоняць яго прэч, астаецца без працы. Крынкаўскі памешчык даўжэйшы час не плаціў парабкам. Працавала ў яго 7 дарослых і 5 маладых рабочых. Памешчык уступіў толькі тады, калі мы наладзілі забастоўку.

— У вёсцы Баранава, Індурскай гміны, — сказаў адзін бадзёры селянін, — здарылася вось такая гісторыя. Землямер, што праводзіў хутарызацыю, надзяліў нашым багацеям найлепшую зямлю. Сабраліся мужыкі і павыкідалі калкі, а землямера прагналі каменнямі. Ён пачаў адстрэльвацца, дык і яго таксама напалохалі зброяй. Ноччу гэтага самага дня ў двух багацеяў, якія выступілі абараняць землямера, загарэліся клуні са збожжам. Паліцыя арыштавала 14 мужыкоў. Страшэнна іх катавалі, але яны нікога не выдалі.



**М. Табарыскі ў 30-х гадах.**

І так сыпаліся прыклады ахвярнай, адважнай і стойкай барацьбы супраць панскай уладзе і яе служакаў. Аб сутычках з каморнікамі, аб забастоўках у памешчыцкіх маёнтках, аб адмове выезду на шарваркі, аб салідарнасці з вязнямі гродзенскай турмы, якія нават галадоўкай бараніліся перад зверствамі ахоўнікаў.

— У час штучнага прымусовага кармлення, — інфармаваў адзін таварыш, — замучылі на смерць палітычнага вязня, таварыша Скульчыка. У Гродне ўспыхнула пратэстацыйная забастоўка, камсамольцы наладзілі бурлівыя мітынгі ля сцен астрога.

— А калі летам 1929 года баставалі нашы крынкаўскія гарбары, — апавядаў нехта, — сяляне з навакольных вёсак даставілі нам 35 пудоў жыта і 323 зл. грашыма. Гэта была для нас вялікая падтрымка.

Калі ўсе, хто хацеў, нагаварыліся, панаракалі на свой незавідны лёс, назначылі заданні на бліжэйшы час, мы выбралі новы састаў Раённага камітэта партыі і канферэнцыя ўласна ўжо канчалася.

Раптам вартавыя трывожна пачалі сігналіць. На могільнік ад Крынак ішлі нейкія людзі. Сакратар Раённага камітэта моўчкі пабег ім насустрач.

«Правал, ці як?» — падумаў я гледзячы на адмененыя раптам твары прысутных. На выпадак якой-небудзь небяспекі ў нас быў загадзя ўстаноўлены план уцёкаў. Я адчуваў, што падпольшчыкі чакаюць на мой сігнал.

Заканчэнне за тыдзень

Апрацаваў **В. Рудчык**

Беларусіяна

## Аляксандр Рыпінскі

Аб мала вядомым польска-беларускім пісьменніку XIX стагоддзя Аляксандру Рыпінскім прачытаць можна ў VI томе выдання „Etnografia Polska”. Змешчаны там артыкул Францішка Германа, якога поўны загаловак гучыць: „Aleksander Rypiński. W 150 rocznicę urodzin znakomitego etnografa, pioniera fotografii polskiej, powstańca z 1863 r., pisarza, pedagoga, historyka, grafika, księgarza, litografa, drukarza i wydawcy”.

Аляксандр Рыпінскі выдаў на эміграцыі дзве кніжкі, якія непасрэдна датычаць Беларусі — першая пад загалоўкам „Białoruś”. Kilka słów o poezji prostego ludu tej naszej polskiej prowincji, o jego muzyce, śpiewie, tańcach etc.” і другую пад загалоўкам «Нячысцік» (беларуская балада). Апрача таго Рыпінскі напісаў два тамы матэрыялаў па этнаграфіі Беларусі і біяграфіі 55 польска-беларускіх пісьменнікаў. На жаль, лёс гэтых матэрыялаў Рыпінскага невядомы.

(п)

 

# У НАС У ГАСЦЯХ САВЕЦКІЯ СЯБРЫ

**Мы пазнаёміліся нядаўна. Да таго завочна. У выніку гэтага знаёмства і паўстаў гэты матэрыял. Газеты «Звязда» (Паставы. БССР), «Žuaigžde» (Швенчоны. Літва) і «Ніва» пастанавілі адзначыць Вялікі Кастрычнік выпускам аб'яднанага нумару, у якім раскажам сваім чытачам аб дасягненнях сваёй зямлі.**

**Дык прапануем увазе нашых чытачоў матэрыял дасланы нашымі новымі савецкімі сябрамі з Беларусі і Літвы (Наш матэрыял — аб дасягненнях Беласточчыны і жыцці беларусаў у Польшчы — будзе надрукаваны аднačасова ў абедзвюх савецкіх газетах).**

## Пастаўшчына

Стрэлкі гадзінніка гісторыі адлічылі паўстагоддзя новага жыцця нашай краіны, новай эры чалавецтва.

Перагарніце старонкі гісторыі Пастаўшчыны і вы ўбачыце, як пад сонцам Кастрычніка расквітнеў наш край. Вялікіх поспехаў за гады Савецкай улады дабіўся раён у развіцці прамысловасці, сельскай гаспадаркі, культуры, народнай асветы. А ў гады ліхалецця, калі раён акупіравалі фашысцкія орды, пастаўшчане ўзняліся на свяшчэнную барацьбу, агнём помсты запалілі зямлю пад яго нагамі. Пастаўскі край праславілі навекі сваім гераізмам і мужнасцю нашы землякі Анна Маслоўская, Фёдар Маркаў, курскі хлопец Васілій Сідарэнка, якім было прысвоена высокае званне Героя Савецкага Саюза. Пасля выгнання гітлераўцаў працоўныя раёна паказалі цуды гераізму на фронце мірнага будаўніцтва.

Прырода шчодра адарыла наш раён незвычайна прыгожымі лясамі, урадлівымі нівамі і лугамі, дзіўнай мазаікай азёр, багаццем будаўнічага матэрыялу.

Аднак, гэты куток зямлі, надзелены казачнай прыродай, населены гераічным і працалюбівым народам, доўгі час заставаўся краем горкага лёсу працоўных людзей, краем галечы і невуцтва.

Удумайцеся ў прыведзеныя ніжэй лічбы і параўнанні.

Некалькі дэкалітраў спірту Лынтупскага спіртзавода, невялікая колькасць шклотары завода «Гута» — вось тая прадукцыя, якая выпускалася прамысловасцю раёна да 1939 года. Цяпер 12 прадпрыемстваў раёна даюць насельніцтву кансервавыя і каўбасныя вырабы, масла і малочныя прадукты, выпускаюць швейныя вырабы і льнопрадукцыю, жалеза, бетон і фібраліт, піламатэрыялы і мэблю, рамантуюць складаную сельскагаспадарчую тэхніку.

Параўнайце сённяшнюю вёску з мінулай, і вы ўбачыце яе гіганцкі рост, веліч спраў, якія зроблены ў вёсцы нашай партыяй, савецкім народам. У 1950 годзе больш 12 тысяч дробных сялянскіх гаспадарак раёна сталі на шлях калгаснага жыцця і з году ў год дабіваюцца росту вытворчасці.

У гэтым годзе працаўнікі вёскі папрацавалі як ніколі. Важкасцю працоўных прадуктаў у атрыманні высокіх ураджаяў зерневых, бульбы, льну сустракаюць Вялікі Кастрычнік працаўнікі калгаса «Бальшавік», дзе атрымана па 20,5 цэнтнера зерневых, «Кастрычнік» — па 19,3 цэнтнера зерневых, «Ленінскі шлях» — па 17,6 цэнтнера зерневых і па 5,7 цэнтнера льнасемя, «Дружба» — па 16,3 цэнтнера зерневых, «Запаветы Ільіча» — па 139 цэнтнераў бульбы, саўгас «Пастаўскі» — па 15,8 цэнтнера зерневых і па 125 цэнтнераў бульбы. Калі ў 1952 годзе валавая вытворчасць зерня ў калгасах раёна склала 12080 тон, то цяпер яно даведзена да 33986 тон або у 2,8 раза больш. Грашовыя даходы калгасаў узраслі з 261 тысячы рублёў у 1952 годзе да 15,6 мільёна ў 1966 годзе. Хіба не аб дасягненні калгаснага ладу гаворыць той факт, што цяпер практычна любы калгас раёна атрымае больш грашовых даходаў, чым усе гаспадаркі 15 год назад.

Горкім потам палівaў раней селянін свой кавалачак зямлі. А ўжо ў 1952 годзе на палях калектыўных гаспадарак працавала 9 аўтамашын, некалькі дзесяткаў трактараў. Сёння калгасныя і саўгасныя нівы апрацоўваюць 649 трактараў, 174 зерневыя камбайны, калгасы маюць 364 аўтамашыны. У выніку асноўныя цяжкія і працаёмкія работы амаль поўнасцю механізаваны.

Шмат сіл, працы і старання ўкладзена ў развіццё жывёлагадоўлі, павышэнне яе прадукцыйнасці. Цяпер гаспадаркі раёна атрымліваюць больш чым у 1952 годзе ў 19 разоў малака, у 21 раз мяса, у 36 разоў яек.

Калі ў цэлым па раёну на сто гектараў сельгасугоддзяў атрымана па 199.2 цэнтнера малака, і па 38,5 цэнтнера мяса, то асобныя гаспадаркі дасягнулі вялікіх вынікаў. У калгасе «Бальшавік», напрыклад, атрымана малака па 325 цэнтнераў на сто гектараў сельгасугоддзяў.

У саўгасе «Пастаўскі» на сто гектараў сельгасугоддзяў атрымана па 67,6 цэнтнера мяса, на 14,8 цэнтнера больш адпаведнага перыяду мінулага года.

Вялікая заваёва калгаснага ладу — новы савецкі селянін. Іншымі сталі кругагляд, культурны ўзровень працаўніка вёскі. Цяпер ён — гаспадар зямлі. гаспадар лёсу, гаспадар краіны сваёй, тварэц і дзяржаўны дзеяч. Даярка калгаса «Чырвоны маяк» Н. І. Рожка з'яўляецца дэпутатам Вярхоўнага Савета Беларускай рэспублікі, 490 калгаснікаў і рабочых саўгасаў з'яўляюцца дэпутатамі мясцовых Саветаў.

Да рэвалюцыі нашы сяляне былі амаль непісьменнымі. Хіба маглі яны марыць тады аб атрыманні высокакваліфікаванай прафесіі. А цяпер толькі ў гаспадарках нашага раёна працуе больш 1580 механізатараў, 240 спецыялістаў сельскай гаспадаркі.

Такія вынікі паўвекавой стваральнай працы нашай вёскі, перамогі калгаснага ладу. Савецкая вёска прыйшла да юбілею Вялікага Кастрычніка моцнай, поўнай творчых сіл.

**Я. Фёдараў**
першы сакратар РК КПБ



**Звыш сарака год аддаў садоўніцкай справе Ніканор Кішко. Каля 20 год ён працуе аграномам-садаводам саўгаса «Пастаўскі». Звыш мільёна двухсот тысяч саджанцаў разнастайных гатункаў выгадавана ў пладагадавальніку саўгаса. У гэтым годзе ў саўгасе агульны збор яблык склаў каля 400 тон. На здымку: Ніканор Кішко.**



**Там, дзе раней на некалькі соцен гектараў былі непраходныя балоты, зараз вырас новы пасёлак «Навінкі». Тут арганізавана рыбная гаспадарка. У гэтым годзе рыбакі рыбгаса далі дзяржаве звыш 200 тон серабрыстага карпа. На здымку: сартыровачная брыгада за работай.**

## Добры дзень, горад

Калі я іду па тваіх вуліцах, сэрца поўніцца радасцю. Як ты вырас, як папрыгажэў. Сёння ты зусім не такі, якім быў паўстагоддзя таму назад. Колькі радасных змен адбылося!

Адна з тваіх вуліц сёння носіць імя Савецкай. Была гэта вуліца і раней. І самым прыгожым быў на гэтай вуліцы графскі палац. З трывогай глядзелі, бывала, сяляне на гэты белы будынак. Палац належаў магнату Пшэздзецкаму. Граф рэдка наведваўся сюды. Жыў ён у далёкай Швейцарыі ў роскашы і гультайстве. А такімі вось палацамі ўпраўлялі падпанкі.



**Выкладчык музыкі па класу скрыпкі Галіна Ганчарова ў час заняткаў.**

Час выкінуў на звалку гісторыі графаў і магнатаў. Сёння ў былым палацы размяшчаецца раённая бальніца. У ёй папраўляюць здароўе калгаснікі і рабочыя. І кожнаму лячэнне бясплатнае, пра што раней ніхто нават не мог і марыць.

Насупраць будынку за апошнія гады выраслі прыгожыя двухпавярховыя

---

**БЕЛАРУСЫ НЕ ТОЛЬКІ НА БЕЛЬШЧЫНЕ**

## ПРА ДРУГІ КРОК

У пачатку разгорнутай беларускай дзейнасці на Беласточчыне вельмі многа гаварылася аб патрэбе новага будынка беларускаму ліцэю ў Бельску. Ліцэй душыўся ў цесных старых руінах. Бадай, не было пленума Галоўнага праўлення беларускага таварыства, якое б абышлося без больш або менш аргументаванай дыскусіі на гэту тэму.

Не прайшло хіба і пяці год, калі ідэя пабудовы сталася фактам — датыкальным фактам — у выглядзе прыгожага ды навюсенькага будынка. Былі вялікія бравісімы! Усе, хто мог, глядзелі радаснымі вачыма на будынак — каб хутка заўважыць (са здзіўленнем!), што зацесны ён! Але гэта паўбяды... так, паўбяды.

Бо — яшчэ ў тыя гарачыя дыскусіі не адзін Яраслаў Кастыцэвіч, не адзін Мікалай Лебядзінскі, сцвярджалі, што новы будынак беларускаму ліцэю будзе найважнейшым, але ўсяго першым крокам у развязцы перспектывы беларускай сярэдняй адукацыі для цэлай нацыянальнай меншасці. Другі крок — гэта пабудова інтэрната.

Без уласнага інтэрната беларускі ліцэй у Бельску — на падабенства такога жа ў Гайнаўцы — з'яўляецца той сярэдняй школай, якая абслугоўвае патрэбы толькі Бельшчыны. З дабрадзейнасці існавання беларускіх ліцэяў скарыстала дасюль раптам дзве-тры асобы з такіх паветаў, як: Беластоцкі, Сакольскі. Няшмат больш і з Сямяціцкага павета. Зусім падобныя лікі кадраў дзеячаў з беларускай сярэдняй адукацыяй — у першую чаргу, настаўніцкіх кадраў — якія прыйшлі з дапамогаю беларускаму культурна-асветнаму руху ў тых жа паветах: Сакольскім, Беластоцкім, нават у блізкім Сямяціцкім павеце. Скажам, імпарт кадраў з Бельшчыны і Гайнаўшчыны ва ўспомненыя паветы для такога тыпу дзейнасці з'яўляецца ілюзіяй, што знаходзіць надта вымоўнае пацвярджэнне ва ўсё мацнеючай палітыцы падтрымання рэгіянальных рухаў, калі гаварыць наогул. Словам, кадры трэба гадаваць з мясцовага матэрыялу — шырыць сярод сакольскай ці падбеластоцкай моладзі цікавасць да беларускага ліцэя ў Бельску. калі гаварыць канкрэтна. Гэты пастулат прапагандуецца здаўна, ад збудавання новага будынка ў ваколіцы 1960 года, — і безрэзультатна. І не дзіўна. Першае пытанне хлопца з-пад Саколкі і дзяўчыны з Гарадка: **дзе буду жыць у Бельску?** (сваякоў там не маюць). Агітатар здзівіўся спачатку і імгненна апамятаўся: дзе жыць у мястэчковым Бельску? Вось пытанне!

Чуваць, што спецыялісты — беларусы, якія жывуць у Варшаве, гатовы бясплатна выканаць тэхнічную дакументацыю для пабудовы інтэрната. Цудоўная гэта чутка дайшла да мяне ўчора і паверыў я, што хопіць нам здольнасцей зрабіць за першым другі крок. Калі так, дык гэты другі крок можа аказацца пачаткам марша. Гм? Папросту, пачаткам ігры ўласцівай ролі, прыдзеленай беларускім ліцэям у развіцці цэлай нашай нацыянальнай меншасці.

Цэлай. **Сакрат Яновіч**

---

(Працяг са стар. 1)

## У Мілейчыцкай грамадзе

працуе, бо няма трактарыстаў, няма трактарыстаў, бо гурток дрэнна працуе і няма чым плаціць трактарыстам.

Гэтага круга ўласнымі сіламі мілейчыцкія гуртkоўцы не змогуць разарваць. Неабходна дапамога павятовых улад. Не слоўная, а канкрэтная — арганізацыйная і грашовая. У выпадку мілейчыцкага гуртка перш за ўсё, на нашу думку, трэба знайсці яму добрага штатнага арганізатара — дыспетчара машын.

Сямяціцкі павет не мае ўласнай школы трактарыстаў. Тым часам у Чартаеве і Астражанах знаходзяцца сельскагаспадарчыя тэхнікумы, у Баціках — ПОМ. Ці не можна было б на базе гэтых устаноў вучыць трактарыстаў для сельскагаспадарчых гурткоў Сямяціцкага павета?

У Мілейчыцкай грамадзе многа зусім мёртвых сельскагаспадарчых гурткоў. Выступаюць яны асабліва ў вёсках, дзе цераспалосіца. Для прыкладу: у Рагачах гурток налічвае 15 членаў і не праяўляе ніякай дзейнасці. Можа тады дзейнасць гэтых гурткоў не абмяжоўваць толькі да малацьбы, арання і абсявання зямлі? Напрыклад, дазволіць ім арганізаваць прадукцыю дахоўкі, пустакаў і іншых матэрыялаў неабходных у кожным гаспадарстве.

Нядаўна ў Мілейчыцкай грамадзе, як і ва ўсім Сямяціцкім павеце, была праведзена так званая анкетызацыя. Павятовыя кіраўнікі ад сельскай гаспадаркі ведаюць тады дакладна, дзе што ёсць, а чаго няма. Хопіць толькі дастаць гэтыя анкеты з сейфаў аддзела геадэзіі і на іх аснове абдумаць дакладны план аздараўлення сельскай гаспадаркі ў занядбаных раёнах Сямяціцкага павета.

**В. Рудчык**



 



Паставы сёння. На плошчы Ул. І. Леніна.

шматэтажныя дамы. Сёння тут жывуць простыя людзі: рабочыя аўтабазы, настаўнікі, рабочыя кансервавага завода і «Сельгастэхнікі».

Якім непазнавальным стаў твой цэнтр, мой родны горад. Раней тут была кірмашная плошча, дзе стаялі мураваныя будынкі з тоўстымі сценамі, так называемыя «круглыя крамы». Цяпер гэта толькі ва ўспамінах. Універмаг, кінатэатр, двухпавярховая сталовая, выраслі на плошчы за апошнія гады. Неўзабаве будуць здадзены ў эксплуатацыю чатырохпавярховы дом Саветаў, двухпавярховы камбінат бытавога абслугоўвання. Да рэвалюцыі ў Паставах былі толькі чатыры вуліцы. Сёння іх у дзесяць раз больш.

Паўстагоддзя назад, ты, мой горад, амаль не меў прамысловасці. Цяпер дзесяткі тваіх сыноў і дачок працуюць на кансервавым заводзе, льнозаводзе, заводзе сухога абястлушчанага малака, у «Сельгастэхніцы», на аўтобазе № 17 і г.д. Прадукцыя, якую выпускаюць твае прадпрыемствы, ідзе далёка за межы рэспублікі.

Раней цяжка было знайсці шлях у навуку. Ты меў толькі адну гімназію, дзе вучоба была платнай. А сёння сотні хлопчыкаў і дзяўчынак вучыцца ў пяці школах. Хто мае здольнасць да музыкі, можа вучыцца нотнай грамаце ў музыкальнай.

Уладаром на калгасных і саўгасных палетках стала тэхніка. І, каб кіраваць ёй, патрэбны веды. Ты, мой горад, даў не толькі свайму, але і суседнім раёнам сотні вопытных механізатараў. Штогод дзесяткі юнакоў і дзяўчат заканчваюць сельскае прафесіянальна-тэхнічнае вучылішча. Яны атрымліваюць спецыяльнасці трактарыстаў, камбайнёраў, шафёраў. І ўсё гэта бясплатна.

Не пазнаць цябе, горад. Сонца Кастрычніка азарыла твой шлях у будучыню. Ты сёння ў рыштаваннях. Год ад году расцеш, прыгажэеш.

**Н. Красноў**

# КАМЕНЦІРУЮЦЬ КАМУНІСТЫ

Напярэдадні свята карэспандэнты газеты «Žuaigžde» П. БАЛЬСІС і Ю. МАРЫНАЎ звярнуліся да некалькіх камуністаў раёна з просьбаю адказаць ім на два пытанні:

**1. Якімі дасягненнямі ў працы сустракае калектыў, у якім Вы працуеце, 50-годдзе Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі?**

**2. Чым знамянальны асабіста для Вас — 1967 — другі год пяцігодкі?**

Адказы на пытанні друкуюцца па чарзе.



## Альфонсас Вайтк'явічус

— дырэктар Пабрадскай сярэдняй школы №2:

1. Калектыў нашых педагогаў цешыцца, што ў навучальна-выхаваўчай рабоце дабіваемся ўсё лепшых поспехаў. У гэтым годзе ўпершыню ў гісторыі школы з 17 выпускнікоў — тры медалісты. З залатымі медалямі закончылі Эўгенія Матэйкайтэ і Данутэ Юршэнайтэ, з сярэбранай — Зіта Буненайтэ. Медалісткі адпаведна паступілі на факультэты электронікі, матэматыкі і эканомікі Вільнюскага універсітэта. Усяго ў вышэйшыя і спецыяльныя сярэднія школы паступіла 10 іншых выпускнікоў. Апошнія працуюць у вытворчасці.

2. У асабістым жыцці нічога не адбылося. Я рады, што расце і ўзмацняецца настаўніцкі калектыў. А год быў натолькі багаты падзеямі, што асабістыя поспехі і радасці губляюцца ў іх кругавароце.



## Яніна Валюшк'явічэне

— глаўурач Пабрадскай І-й раённай бальніцы:

1. Прайшло ўжо шаснаццаць гадоў, як працую ўрачом у Пабрадзе. У год майго прыбыцця ў бальніцы налічвалася 35 месцаў. Зараз колькасць месц узрасла да 75. Заснавалі лячэбныя пункты на прамысловых прадпрыемствах горада. Лячэбныя пункты ёсць таксама ў больш вялікіх населеных пунктах апілінак. Выраслі кадры ў абслугоўваемай бальніцай зоне. Зараз у горадзе і вясковых мясцовасцях працуе 12 урачоў, каля 30 работнікаў сярэдняга медыцынскага персанала.

Нашы медыкі змагаюцца за паніжэнне захворвання, за прадоўжанне чалавечага жыцця. У гэтым годзе ў нашай зоне не было ніводнага выпадку смерці дзяцей.

2. Цешуся сям'ёй. Добра растуць два сыны. Старэйшы добра вучыцца. Атрымалі лепшую кватэру. Але гэта ўжо будні.



## Праскоўя Батыгіна

— загадчыца Пабрадскага мэблевага магазіна:

1. Мой калектыў... гэта я адна. Але працуючы адна, адчуваю падвойную адказнасць. Галоўныя клопаты — забяспечыць спажыўцоў таварамі. Прымаю заказы пакупнікаў, сама езджу па тавар. Пакуль што пакупнікі не наракаюць.

Але, як сакратар пярвічнай партыйнай арганізацыі спажывецкага грамадства, магу пагаварыць і аб дасягненнях усяго калектыву. А дзейнасць работнікаў гандлю лепш за ўсё адлюстроўваецца ва ўтрыманні прылаўка і вітрын. Думаю, большасць прызнае, што пабрадцы да гэтага часу лепшыя работнікі гандлю ў раёне.

2. У гэтым годзе важнейшай падзеяй асабіста ў маім жыцці і жыцці іншых нізкааплочваемых работнікаў падобнага профілю лічу пастанаўленне ЦК КПСС і Савета Міністраў СССР «Аб мерах па далейшаму павышэнню дабрабыту савецкага народа».



## Сямён Тачылаў

— кіраўнік Зулоўскага аддзялення саўгаса «Валюляй»:

1. Лічу за лепшае канкрэтнасць. Таму і буду гаварыць канкрэтна, хаця, магчыма, і суха. Земляробы аддзялення вырасцілі добры ўраджай. Ячменю атрымалі па 23 цэнтнеры з гектара, кармавых буракоў — па 300 цэнтнераў.

Свята сустракаем, сабраўшы з поля самую познюю культуру — кармавыя буракі. Закончана асенняе ворыва. Вочы радуюць цудоўныя пасевы азімых. Таму надзеемся на добры ўраджай у наступным годзе.

2. У гэтым годзе ўсе рабочыя саўгаса добра зарабілі. На сорак рублёў павысілася і мая заработная плата — кіраўніка аддзялення.



## Соф'я Антонаўна Тураба

— персанальны пенсіянер, член партыі ад 1919 года:

1. На заранку Савецкай улады прышлося многа напрацавацца. Памятаю разруху. Франты грамадзянскай вайны. Мы тады марылі аб спакойным стваральным жыцці. Зараз усё гэта ззаду. Мы збудавалі новае грамадства, аб якім марыў і Ленін, мы камуністы. Цешуся, што дажыла да такіх дзён, калі наша краіна крочыць да новых вяршынь. Народ пачаў жыць культурна, багата.

2. Хаця я адзінокая жанчына, не чуюся такой. Да мяне часта прыходзяць школьнікі паслухаць аб мінулым, сустракаюся з моладдзю, якая дарыць мне свае ўсмешкі, сваю ўдзячнасць. Вось, чым знамянальны мне юбілейны год.



## Іпалітас Налівайка

— старшы майстар Швенчэленскай швейнай фабрыкі:

1. Наш цэх рыхтуе спецадзенне для рабочых, форму для прафтэхвучылішч. У трэцім квартале занялі другое месца па фабрыцы, атрымалі 700 рублёў прэміі. Мы ўжо выканалі звыш планавай прадукцыі на 40 тысяч рублёў. Але не толькі за колькасць змагаюцца рабочыя нашага цэха. Выпускаем прадукцыю толькі добрай якасці.

2. Гэты год для мяне асаблівы. Камуністы прынялі мяне ў сваю сям'ю. Стаў я кандыдатам у члены партыі, паступіў у тэхнікум. А самае знамянальнае — я ажаніўся.



## Рымас Клімас

— сакратар камсамольскай арганізацыі, інжынер, начальнік аддзялення тэхнічнага кантролю Швенчэнскай фабрыкі па апрацоўцы лекавых раслін:

1. Фабрыка наша ўдзельнічае ва Усесаюзным спаборніцтве прадпрыемстваў медыцынскай прамысловасці. Датэрмінова быў выкананы план 9 месяцаў. За гэты час мы далі звышпланавай прадукцыі больш, чым на 30 тысяч рублёў. Фабрыка адзіная ў Саюзе, якая прадукуе лекавыя гарбаты. Прадукцыя разыходзіцца ва ўсе куткі нашай вялікай краіны. Экспартуем нашы лякарствы і за граніцу: у ГДР, Венгрыю, Чэхаславакію і іншыя краіны. Вялікае месца ў жыцці калектыву займаюць камсамольцы. Члены ВЛКСМ Данутэ Юршанайтэ, Ірэна Паўлавайтэ, Гражына Данілавічутэ, Стасе Анісімава заваявалі любоў і паважанне калектыву.

2. Асабістага? Як вам сказаць? Я ж малады спецыяліст і ўсё мне здаецца добрым. Купіў у гэтым годзе матацыкл. Цяпер маем больш часу — працуем пяць дзён у тыдні.

**Сядайце, едзем.**

# Хто бачыў Гродзенскі тэатр?

Прыезд на гасцінныя гастролі Драматычнага тэатра з Гродна выклікаў асабліва жывы водгук у тэрэне. Дзякуючы «Грамадзе» ў рамах нашае з ёю акцыі «Сядайце, едзем», сотні асоб пабывалі на выступленнях гэтага тэатра ў Беластоку.

Вось яны:

1) Фабрыка Сяржана з Міхалова — 90 асоб.

2) Спулдзельня ўслугова-вытворчая сельскагаспадарчых гурткоў з Міхалова — 40 асоб.

3) ПОМ з Кляшчэляў — 60 асоб

4) ГС з Кляшчэляў — 70 асоб

5) ГС з Заблудава — 60 асоб

6) ПОМ з Нарвы — 112 асоб

7) ГС з Нарвы — 52 асобы

8) ГС з Гарадка — 110 асоб

9) Акруговая спулдзельня малачарская з Заблудава — 50 асоб

10) Фабрыка «Каро» з Гарадка — 260 асоб.

11) Беларускі агульнаадукацыйны ліцэй з Гайнаўкі — 155 асоб.

Падаючы апошнюю лічбу дырэктар беластоцкай «Грамады» прасіў падкрэсліць сардэчныя адносіны да нашай акцыі і заслугі дырэктар **Анастасіі Тропак.** Яна вельмі стараецца даць сваім вучням многа мажлівасцей пабачыць свет і ўсе яго добрыя і карысныя з'явы. Стараецца пашыраць усебакова іх разумовы гарызонт. (вл)

# Белавежскія прыяцелі

Нельга не быць прыяцелем Белавежы, бо тыя з Таварыства прыяцеляў Белавежы помняць пра цябе.

Мы ўжо прызвычаіліся рэгулярна атрымліваць невялікі ліст з подпісам Альшэўскага і інфармацыяй, што робіцца ў іх мясцовасці. З найноўшага пісьма белавежцаў даведваемся, што старшыня Таварыства прыяцеляў Белавежы доктар **Януш Фалінскі** цяпер ужо з'яўляецца дацэнтам. За сваю габілітацыйную працу «Antropologiczna roślinność Puszczy Białowieskiej jako wynik synantropizacji naturalnego kompleksu leśnego» атрымаў узнагароду Міністра асветы і вышэйшага школьніцтва.

Сам **Ежы Альшэўскі** — сакратар таварыства, 20 лістапада правёў у Белавежы лекцыю з каляровымі дыяпазітывамі (празрочамі) аб Ленінградзе — горадзе рэвалюцыі, дзе, як піша, нейкі час быў. вл.

# ШТО, ДЗЕ, КАЛІ?

Ноччу 12 на 13 лістапада зладзеі праз акно дасталіся да бару «Пад семафорам» на станцыі Чаромуха ў Гайнаўскім павеце, адкуль забралі 700 злотых і адну мясную кансерву.

Яўгеній Кісялевіч (19 год) і Яўгеній Люты (20 год), абодва з Міхалова, 21 кастрычніка па-п'янаму пабілі настаўнікаў сельскагаспадарчай школы ў Міхалове. Я. Кісялевіча арыштавана, а за Я. Лютым устаноўлена міліцыйны дагляд.

Па загаду павятовага пракурора ў Бельску арыштавана 20-цігадовага Яўгенія Сідарука з Бельска, які нідзе дагэтуль не працаваў і займаўся зладзействам.

Гайнаўская міліцыя арыштавала 17-цігадовага Кастуся Харкевіча з Гайнаўкі, які ў чэрвені г.г. супольна з іншымі абакраў Мікалая Шпаковіча з Белавежы. Яго супольнікі даўно ўжо знаходзяцца ў турме. К. Харкевіч хаваўся дагэтуль перад міліцыяй.

9 кастрычніка павесіліся: селянін з вёскі Плянтачка ў Сакольскім павеце, Г. Былінскі, 39 год, бацька двух дзяцей, і селянін з вёскі Маркавы Выган, Мечыслаў Лукашэвіч, 55 год, бацька трох дзяцей, а таксама Чэслаў Мар'ян Каляга з вёскі Чорнай Касцельнай у Беластоцкім павеце. Прычын іх самагубства яшчэ не ўстаноўлена.

Вучань VI класа пачатковай школы ў Меляшках (Беластоцкі павет), 15-цігадовы Сяргей Марцінчык з Меляшкоў ноччу 5 лістапада праз саламяны дах дабраўся ў каморку мясцовай крамы, адкуль забраў 8 бутэлек віна. Затым улез праз акно да вясковай святліцы і папсаваў там тэлевізар «Клейнат». Затраты міліцыя ацаніла на 1200 зл. Следства вядзе пастарунак у Гарадку.

Вечарам 5 лістапада г.г. з-пад уласнага памяшкання Мікалая Юзвовіча ў Беластоку, вул. Астроўскага 2 хтосьці ўкраў яго самаход маркі «Варшава», вартасцю ў 110 тыс. зл. Злодзея шукае міліцыя.

Па загаду гарадскога пракурора ў Беластоку арыштавана Сцяпана Дамалеўскага кіраўніка аддзела кватарунку Прэзідыума МРН у Беластоку, падазронага ў тым, што браў хабар за хутчэйшы прыдзел кватэраў.

10 лістапада згарэў стог з саломай Сцяпана Масайла з вёскі Новая Воля ў Беластоцкім павеце. Затраты ацэньваюцца на 4.500 злотых. Прычын пажару дагэтуль не ўстаноўлена. Следства вядзе міхалоўскі пастарунак. **Асака**




### ЧЫРВОНЫЯ ЛЫЖЫ
(Пачатак у папярэднім нумары)

Генка павесялеў. Вядома, маці хутка справіцца, калі ёй не будзе замінаць маленькая Волька. І ён клапатліва карміў сястру, выносіў і выліваў брудную ваду, некалькі разоў бегаў з вёдрамі па ваду. І можа таму, што ён так старанна памагаў маці, яна скончыла свой клопат вельмі хутка. Генка паабедаў, выбег на вуліцу, стаў на лыжы і пакаціў...

Генка хутка прыехаў да ручая, што выцякаў з лесу і ніколі не замярзаў. Міхася з сябрамі там не было. Ружавеў спаласаваны лыжнікамі снег. Зырка блішчаў пад узвалам выглянцаваны трамплін. Вакол стаяла цішыня. Ад **ракі на ўзвал** і далей, у лес, вялі сляды, і Генка паехаў туды. Відаць, пагойсаўшы з трampліна, хлопцы махнулі ў лес шукаць арабіны*, можа ён і знойдзе іх там.

Сляды ў лесе адразу прапалі, зліліся ў адну шырокую лыжню. Па ёй лёгка было ехаць, але Генка знарок не стаў на яе і ўпарта пракладваў новы след. Ён даехаў да дарогі, дзе лыжня загубілася, пастаяў, нічога не пачуў і павярнуў назад.

Пад лыжамі суха шорхаў снег. Генка заціснуў палкі пад пахаю і хутка пайшоў па старой лыжні. Цяпер ён дакладна ведаў, што сяброў не знойдзе, што ўвогуле яны, мабыць, даўно сядзяць па хатах і ён дарэмна шукае іх. І няхай сядзяць! Ён і адзін можа пакатацца. І з трампліна паскача!..

Цяпер ніхто не захапляўся яго спрытам, і Генка, двойчы скокнуўшы з трампліна, спыніўся на ўзвале. Дрэнна аднаму. І, мабыць, нядобра ён зрабіў, што не даў лыж Міхасю. Цяпер Міхась не будзе сябраваць з ім. Міхась такі хлопец: калі скажа слова, стрымае. Але навошта яму тады лыжы былі? Каб перад Нінкаю пафарсіць? Пахваліцца, што можа далёка скокнуць? Ён, мабыць, тут і выхваляўся. І няхай. Генка такі скачок можа зрабіць!..

Генка ў апошні раз зірнуў на аснежаную прастору ракі, разагнаўся і рынуўся ўніз. Лыжы панеслі яго як ніколі імкліва, і трамплін наблізіўся імгненна.

Хлопчык прыгнуўся, і ў той жа міг, калі кончыкі лыж зраўняліся з краем трампліна, ён моцным рыўком прыўзняўся і раскінуў рукі. Магутная сіла падкінула яго, вецер моцна ўдарыў у твар, і Генка, убачыўшы пад сабою рэдкі лазняк, зразумеў, што падскочыў няўдала, што правая лыжа падгінаецца, вернецца набок, але не мог ужо нічога выправіць.

Удар прыйшоўся на правы бок. Кароткі, як дотык гарачага жалеза, боль працяў нагу, нібы рассек яе на мноства дробных кавалачкаў. І яшчэ пачуўся трэск зламанай лыжы. Гэты трэск Генка пачуў раней за боль, але не паспеў асэнсаваць таго, што здарылася: боль з нагі перацёк у рукі, расплыўся па ўсім целе, падступіў да сэрца і застаўся там. Генка ляжаў, падкурчыўшы нагу, баючыся варухнуцца, каб не абудзіць боль, злізваў з губ цёплыя раўчукі — гэта раставаў снег — і глядзеў на кавалак лыжы, што тырчком стаяў у снезе побач з ім і яшчэ ціха гойдаўся. Ён бачыў жоўтыя звіліны на зломе, бачыў чорны лес, постаці лыжнікаў на ўзвале і чуў, як адтуль крычалі:

— Уставай! Зараз мы паедзем!

Гэта крычаў Міхась. Генка адразу пазнаў яго па голасе, пазнаў Віцьку Дарахава, што стаяў побач, і Пятра Шэршаня, які круціў палкаю над галавой. І яшчэ з імі быў адзін хлопец, але незнаёмы, у белай спартыўнай шапачцы. Хто ж гэта такі? Нінчын брат, мабыць. А яна дзе? Хіба не паехала?

Генка паспрабаваў узняцца, але адразу ж паваліўся на снег ад нясцерпнага болю. Ён бачыў, што хлопцы едуць на яго, глядзеў на іх і ўсё трывожыўся і не разумеў, чаму няма з імі Нінкі.

Генка зразумеў гэта пазней. Ён не мог ісці, і хлопцы везлі яго. Ён ляжаў на звязаных раменьчыкамі лыжах і пазіраў на хлопца ў белай шапачцы. Генка бачыў яго спіну, бачыў палкі, счэпленыя праз колцы, і бачыў, як шліхаюць па лыжні карычневыя лыжы. Нінчыны лыжы! Ён пазнаў бы іх з сотні іншых, гэтыя лыжы, што замацаваны на канцах шырокімі палоскамі каляровай бляхі. Значыцца, вось чаму яна не паехала! Яна ж лыжы яму аддала. А ён... Ён пашкадаваў сваіх лепшаму сябру! Пашкадаваў і хлусіў яшчэ, выкручваўся!..

Было сорамна і брыдка ад гэтых думак. Генка зірнуў на Міхася. Міхась стаміўся, ідучы па глыбокім снезе, ссунуў шапку на патыліцу. Цэлая лыжа ляжала ў яго на плячы.

— Міхась, — ціха паклікаў Генка.

— Што, баліць? Цярпі ды радуйся нага цэлая.

— Я схлусіў табе, — прамовіў Генка, радуючыся, што ён сказаў гэта, і адчуваючы, што цяпер казаць яму лягчэй. — Калі ты прасіў, у мяне лыжы былі намазаны. Паскнарнічаў я. Ты даруй...

— Ляжы, ляжы! Не кранайся! Хутка прыедзем!

— Ты не крыўдуй на мяне. Добра?

— Ляжы, кажу табе!..

Міхасёў голас быў строгі, але не было той злосці, з якой ён крычаў раніцай у сенцах, і Генка падумаў, што яны зноў будуць сябрамі.

**Алесь Савіцкі**

1. Чаму Генка не мог пайсці з сябрамі на лыжы?
2. Як вы ацэньваеце паводзіны Генкі ў адносінах да Міхася?
3. Як аднесліся сябры да Генкі?
4. Падзяліце апавяданне на часткі і прыдумайце да іх загалоўкі.
5. Раскажыце, як вы праводзіце зімовыя канікулы?

**Біяграфічная даведка**

Алесь Савіцкі. — Сучасны беларускі пісьменнік. Нарадзіўся ў 1925 годзе. Піша для дзяцей.

**Слоўнік**

Арабіна — рабіна.




### ПАВЕЛІЧЭННЕ НАЦЫЯНАЛЬНАГА І САЦЫЯЛЬНАГА ПРЫГНЁТУ Ў БЕЛАРУСІ

Узмацненне ўлады феадалаў у Беларусі прывяло да таго, што ў палавіне XVI стагоддзя беларускія сяляне былі канчаткова запрыгонены. Яны не мелі права на зямлю, на якой жылі і працавалі, вымушаны былі даваць феадалам даніну збожжам, хатняй жывёлай, ільном, каноплямі, сенам, мёдам. Колькасць іх абавязковай працы ў панскім маёнтку павялічылася да чатырох—шасці дзён у тыдні. Апрача гэтага яны мусілі плаціць пану значныя грашовыя падаткі.

Сяляне сталі цалкам залежнымі ад феадалаў. Не мелі права пакінуць свайго пана, не знаходзілі абароны і апекі ў дзяржаўных уладаў ад здзекаў і несправядлівасцей. Пан меў права судзіць сялян, караць іх, выменьваць, купляць і прадаваць.

Не лепш жылося працоўнаму люду ў гарадах. У іх уся ўлада належала да феадалаў, багатых купцоў і заможных рамесніцкіх майстроў. Яны ўваходзілі ў склад гарадской рады, якая вырашала ўсе справы жыхароў горада. Яго асноўную частку насельніцтва складалі малазаможныя майстры, падмайстры, рамесніцкія вучні, гандляры, агароднікі, найміты, прыслугі, жабракі. На іх накладвала гарадская рада ўсе падаткі і абавязкі, а за невыкананне іх жорстка карала.

Пагаршалася таксама палажэнне купцоў на беларускіх землях. Магнаты і шляхта атрымалі ад караля права без падатку вывозіць за граніцу і прывозіць адтуль розныя тавары. Купцы ж далей мусілі плаціць высокі падатак дзяржаве за вываз і прывоз з-за граніцы. Таму буйны калісьці гандаль гарадоў Беларусі з замежнымі краінамі цяпер амаль зусім быў спынены, збяднелі купцы, апусцелі крамы ў гарадах і мястэчках.

Гарадское насельніцтва баранілася ад прыгнёту гуртуючыся ў брацтвы. Брацтвы мелі супольную касу. Яны дапамагалі сіротам і бедным, утрымоўвалі свае школы, бальніцы, засноўвалі друкарні, пашыралі пісьменнасць і адстойвалі родную беларускую мову.

Цяжкае палажэнне сялян і гарадскога насельніцтва было прычынай частых бунтаў і паўстанняў.

Асабліва вялікім было паўстанне беларускіх сялян пад кіраўніцтвам казацкага атрада на чале з Налівайкам.

Атрад Налівайкі прыйшоў з Украіны. Да яго далучыліся беларускія сяляне і гарадская бедната. Восенню 1595 года паўстанцы здабылі горад Магілёў і жорстка пакаралі шляхту, паноў і багатых мяшчан за іх здзекі над працоўнымі. Каралеўскія войскі разбілі атрад Налівайкі. Хутка пасля яго паявіўся на Беларусі казацкі атрад пад кіраўніцтвам Дубіны. Да яго далучылася многа прыгонных сялян. Паўстанцы здабылі горад Віцебск. Хоць і гэты атрад быў разбіты панамі і шляхтай, сяляне не спынілі свае барацьбы супроць прыгнятальнікаў.

*ПЫТАННІ І ЗАДАННІ*

*1. Якія былі прычыны і вынікі уніі Вялікага Княства Літоўскага і Польшчы ў Крэве ў 1386 годзе?*

*2. Раскажыце аб тым, як узмацняўся ўплыў польскіх магнатаў і каталіцкай царквы на беларускіх землях пасля Люблінскай уніі.*

*3. Раскажыце, як жылося сялянам і працоўным гарадоў.*

*4. Як бараніліся мяшчане і сяляне ад узрастаючага прыгнёту?*

## КУРЦЫ ЖЫВУЦЬ 8 ГОД МЕНШ

25-гадовы чалавек, які курыць па дзве пачкі папяросаў за дзень, будзе жыць на 8 год менш, чым яго равеснік, які не курыць увогуле. Доследы вучоных паказалі, што нават малая колькасць папяросаў таксама моцна шкодная. Малады чалавек, які курыць за дзень 9 папяросаў, скарочвае сваё жыццё на 5 год. У папяросавай паперы выкрыта субстанцыю 200 разоў больш шкодную, чым газ. Субстанцыя гэта называецца селен. Прытым, селен выклікае ракатворчую хваробу вантробы. Пацвердзілі гэта доследы вядомых амерыканскіх і савецкіх лекараў-вучоных. (ся)




### ЗМЕНА ГАСПАДАРА БЕЛАГА ДОМА

Для новага прэзідэнта галоўная праблема, калі ён выехаў з дому, заключалася ў тым, куды яму накіравацца. Як кіраўнік дзяржавы, ён меў права заняць Авальны кабінет. Але яго прысутнасць у Белым доме была б непазбежна няправільна вытлумачана і выклікала б рознага роду неладзі. Ніякага яснага выбару ў яго не было, і Джонсан праявіў зусім не тыповую для яго нерашучасць. Спачатку ён спыніў свой выбар на заходнім крыле.

Эвелін Лінкальн ведала, што міністр юстыцыі хацеў, каб асабістыя рэчы прэзідэнта Кенедзі былі вывезены з заходняга крыла, але не бачыла ніякай асаблівай прычыны для спешкі і нават папрасіла прэзідэнцкага фатографа капітана Сесіла Стафтана сфатаграфаваць новааддзеланыя пакоі, пакуль там яшчэ заставаліся рэчы Джона Кенедзі, і раптам нечакана з'явіўся Ліндан Джонсан.

— Я маю патрэбу ў вас больш, чым вы ва мне. Але з-за заграніцы (ён, відаць, меў на ўвазе неабходнасць падтрымаць упэўненасць за граніцай) мне таксама трэба перабрацца. У мяне назначана сустрэча на 9 гадзін 30 мінут. Ці не мог бы я размясціць сваіх дзяўчат у вашым пакоі к 9-30?

Ён пакідаў ёй менш як гадзіну. Яна няўпэўнена прамармытала:

— Зразумела, пан прэзідэнт.

Тады Джонсан прадоўжыў:

— Як вы думаеце, ці магу я размясціць Біла Мойерса ў кабінеце Кена О'Донела?

Яна не ведала, што адказаць. Яна не мела ніякага ўплыву на «начальніка штаба» Кенедзі. Пасля няёмкай паузы яна нерашуча сказала:

— Сапраўды, не магу вам сказаць, пан прэзідэнт.

Выходзячы збянтэжаная, яна наткнулася ў сваім пакоі на міністра юстыцыі. Яна ўсхліпнула:

— Вы ведаеце, што ён папрасіў мяне вызваліць пакой к палавіне дзесятай?

Малодшы Кенедзі быў непрыемна здзіўлены. Ён толькі што прыйшоў паглядзець, як ідзе пераезд, але гэтага ён ніяк не чакаў.

— Не, нічога не ведаю.

У холе Роберт Кенедзі сустрэў новага прэзідэнта. Гэта была іх першая сустрэча пасля забойства.

— Я хачу перагаварыць з вамі.

— Добра, — сказаў Роберт Кенедзі. Але ён не хацеў гаварыць з ім у прэзідэнцкім кабінеце. Яны прайшлі ў невялічкую прыёмную насупраць прэзідэнцкай туалетнай і Джонсан расказаў, што мае патрэбу ў ім больш, чым у ім меў патрэбу яго брат. Да гэтага часу паўтузіны членаў урада паспелі ўжо расказаць Кенедзі, як Джонсан гаварыў ім тыя ж самыя словы. Ва ўсялякім разе, міністр юстыцыі не хацеў у той момант абмяркоўваць магчымасць свайго далейшага знаходжання ў кабінеце. Ён сказаў Джонсану, што праблемы, якія патрабуюць неадкладнага вырашэння, маюць больш празаічны характар. Гутарка ідзе пра мэблю. Упакоўка рэчаў яго брата зойме нейкі час, растлумачыў ён і запытаўся:

— Вы можаце пачакаць?

— Вядома, — адказаў новы прэзідэнт і тут жа пачаў агаворваць свой адказ: ён сам не імкнецца неадкладна ўехаць у Белы дом, але гэтага патрабуюць яго саветнікі.

На другім баку вуліцы Роберт Кенедзі паведаміў Эвелін, што яна можа не спяшацца. І ўсё ж ёй хацелася закончыць хутчэй.

Завяршыць пераезд да палавіны дзесятай было проста немагчыма, але Эвелін цвёрда вырашыла ўпакаваць усе рэчы да адзінаццаці, і, хоць хадзіла на нядоўгі час на малебен, яна ўсё ж паспела. Як толькі былі вывезены рэчы аднаго кіраўніка дзяржавы, з'явіліся рэчы другога. На сцяне за сталом Эве-

 

# ТРЫБУНА чытачоў

## У РЭДАКЦЫЮ «НІВЫ»

Kuratorium Okręgu Szkolnego Białostockiego, po zapoznaniu się z artykułem A. Łabanowicza pt. „O przeglądzie... z propozycjami", zamieszczonym w 44 numerze „Niwy", uprzejmie dziękuje za przychylną ocenę szeregu artykułów zawartych w naszym wydawnictwie.

Kuratorium zgadza się z zawartą w artykule uwagą, że zbyt wiele materiałów zamieszczonych w „Przeglądzie"... opracowanych zostało przez przedstawicieli instytucji nadrzędnych w stosunku do szkoły podstawowej. Fakt ten nie wynika jednak z polityki redakcyjnej, lecz uwarunkowany jest brakiem materiałów pochodzących z tzw. terenu. Mimo listu do nauczycieli, który dołączony został do pierwszego numeru „Przeglądu"..., mimo słów zachęty na wszelkich spotkaniach i konferencjach, otrzymujemy niewiele artykułów, których autorami są nauczyciele szkół podstawowych.

Nie godząc się z tym stanem rzeczy, postanowiliśmy obok dalszego zachęcania ogółu nauczycielstwa do nadsyłania informacji o swoich pedagogicznych doświadczeniach, kierować imienne zamówienie na opracowanie określonych tematów. Mamy nadzieję, że w ten sposób wzbogacimy treść naszego wydawnictwa o materiały związane bezpośrednio z warsztatem pracy nauczyciela.

Kuratorium OSB zdaje sobie również sprawę z poważnego udziału Białoruskiego Towarzystwa Społeczno - Kulturalnego w krzewieniu kultury na terenie naszego regionu. Artykuł Stanisława Romana pt. „Wkład szkół w rozwój kultury na Białostocczyźnie" dotyczył jednak globalnej działalności szkół i nauczycieli w omawianym zakresie, a więc i szkół z białoruskim językiem nauczania.

Istotnym przeoczeniem autora jest natomiast pominięcie Redakcji „Niwy" przy wyliczaniu instytucji i organizacji, od których szkolnictwo otrzymuje pomoc w rozwijaniu działalności oświatowo-kulturalnej wśród młodzieży i społeczeństwa dorosłego. Udział Waszego czasopisma jest tu bezsporny i duży.

Jeżeli chodzi o odrębne wydawnictwo przeznaczone dla nauczycieli szkół z językiem białoruskim, to sprawa ta wymagałaby szerszej konsultacji ze względu na poważne trudności finansowe i organizacyjne towarzyszące tego rodzaju przedsięwzięciom. Kuratorium nie widzi natomiast przeszkód, aby w „Przeglądzie Oświatowo-Kulturalnym" znalazły się materiały informujące o pracy szkół białoruskich oraz o działalności kulturalnej środowiska białoruskiego.

Kurator Okręgu Szkolnego
mgr Edward Kryński

## КГВ У ТРЫВЕЖЫ

КГВ у Трывежы існуе ўжо два гады. Належаць усе жанчыны. Старшынёй гуртка з'яўляецца Оля Давідзюк. Кожны тыдзень жанчыны збіраюцца ў школе на заняткі, якія вядуць лекар і спецыялісты з сельскай гаспадаркі. У мінулым годзе быў арганізаваны курс гатавання і пячэння. У гэтым годзе хочам арганізаваць яшчэ курс масарскі і курс шыцця і гатавання. **Люба К.**

## ВЫСОКІЯ ЎЗНАГАРОДЫ

З нагоды вялікага свята 50 гадавіны Вялікай Кастрычніцкай рэвалюцыі з нашых мясцовасцей былі ўзнагароджаны савецкімі ўзнагародамі людзі, якія прымалі ўдзел у рэвалюцыі. Якуба Мартынюка, які быў матросам на «Аўроры», узнагароджана Ордэнам Леніна. Якуб Мартынюк родам з Новага Беразова прымаў таксама удзел у штурме на Зімні палац.

Другім узнагароджаным з'яўляецца Фёдар Чэрняўскі з Міклашоў. Узнагароджаны ён Ордэнам Чырвонага Сцяга. Чэрняўскі — гэта актыўны дзеяч «Грамады» і КПЗБ, за што сядзеў у Картуз-Бярозе. Ордэнам Чырвонай Звязды ўзнагароджаны Сяргей Дружба, родам з Крываціч. Прымаў ён удзел у рэвалюцыі, служачы ў арміі Будзённага. У II-ую сусветную вайну ён ваяваў супраць нямецкіх захопнікаў. Польскі ўрад за заслугі ўзнагародзіў яго Афіцэрскім Крыжам Ордэна Адраджэння Польшчы.

**Янка Кірыдзюк**
Крывацічы

---

лін быў адразу ж павешаны велізарны партрэт Ліндана Джонсана ў залочанай раме, прынесены з яго віцэ-прэзідэнцкага кабінета.

Паколькі міністр юстыцыі быў не ў сілах цяпер весці справы, Нік Катцэнбах фактычна ўжо выконваў яго абавязкі, і іменна ён прапанаваў тады стварыць для расследвання камісію, якую пазней узначаліў старшыня Вярхоўнага суда Эрл Уорэн. На свой жах, Катцэнбах даведаўся, што новы прэзідэнт ужо прыняў папярэдняе рашэнне аб стварэнні тэхаскай камісіі, у якую не ўвайшоў ні адзін нетэхасец і ні адзін прадстаўнік федэральных улад. Катцэнбах накіраваўся да Эйба Фортаса, вашынгтонскага адваката, які быў блізкі з Лінданам Джонсанам. Ён прама назваў ідэю Джонсана жахлівай памылкай. Ад Фортаса ён упершыню даведаўся, што прэзідэнт мае намер публікаваць даклад ФБР аб акалічнасцях забойства, як толькі ён будзе падрыхтаваны. Гэта таксама будзе памылкай, сцвярджаў Нік і ўпарта настайваў на тым, каб даклад быў абнародаваны праз міністра юстыцыі і яго самога.

(Працяг будзе)

## ШЧЫРАЯ СЯБРОЎКА



Вера Сарока (на здымку) пасябравала з «Нівай» яшчэ будучы вучаніцай пачатковай школы. Потым гэты часопіс служыў ёй дапамогай у вывучанні роднай мовы ў гайнаўскім беларускім ліцэі. Цяпер яна медсястра гайнаўскай павятовай бальніцы. З «Нівай» не расстаецца да сённяшняга дня. Чытае яе, як кажуць, ад дошкі да дошкі. «Ніве» шле яна свае найлепшыя пажаданні.

Тэкст і фота Я. Цялушэцкі

## НЕ ШАНУЮЦЬ

У вёсцы Ваські, Гайнаўскі павет, ужо некалькі год таму назад была праведзена меліярацыя лугоў і сенажацяў. Жыхары гэтай вёскі не шануюць меліярацыйных равоў. Там каровы ходзяць паўвязваныя на ланцугах, так што за дзень праходзяць 100 разоў меліярацыйныя равы і нішчаць іх.

Жыхары вёскі Ваські самі не хочуць чысціць меліярацыйных равоў, а толькі іх нішчаць. А калі прыйшлі туды пастаянныя рабочыя, то жыхары крычаць, што яны самі пачысцяць. У Васьках страшэнная бесталкоўшчына на равах. І ўгаворы не памагаюць.

Хоць гэта апошні сродак выхавання, але варта, каб з вёскі Ваські знайшлося некалькі гаспадароў на Павятовай калегіі карна-адміністрацыйнай. Дзяржава ўнесла вялікі ўклад, каб палепшыць сенажаці на тых няўгоддзях, дзе калісьці немагчыма было прайсці чалавеку.

«Ярош»
Гайнаўскі павет




### ТАБЕ ІВОНА З ГОР. Г.

Як нажыла бяды, чароўная Івона,
Закаркала тады, як у непагадзь варона.
А быў адзіны у Івоны
Залётнік Тосік, нарачоны.
Яго Івона шчыра не кахала,
Яна ў жарцікі з нуды гуляла.
Узніклі сваркі, нараканні,
Разрыў узаемнага кахання.
І вось з другою Тосік жэніцца,
Жыццё з другой у Тосіка не клеіцца.
Чараваны табой, любоўю першай
згубнаю,
Пакінуў Тосік жонку сваю шлюбную,
Вакол Івоны зноў пачаў ён віцца,
З Івонай Тосік хоча ажаніцца.
Івона па сабе: кватэру, мэблю мае
І хлопчыка сабе разумнага чакае.
Мары дарэмны, як пісанне на вадзе.
Ты ж адзінокая ў сваёй бядзе.
На сэрцы ты цяжарны камень носіш,
Урэшце ў чытачоў парады просіш.
Можна параіць, не горш ад роднай
маці:
Ад Тосіка табе трэ хуценька ўцякаці,
Бо Тосіка любоў трагічна і шалёна,
Паслухай шчырых слоў, чароўная
Івона.
Усё перашуміць, усё перамелецца,
Тосік без цябе да жонкі вернецца.

**Міхась Красоўскі**
Малынка

Увага!

Дарагія Чытачкі і Чытачы. Калі звяртаецеся да Сэрцайка ў справе школ, курсаў і т.п. падавайце свой дакладны адрас, тады будзеце атрымліваць пісьмовы адказ.

**Сэрцайка**

## ПАЧЫНАЮЦЬ ПРАЦАВАЦЬ

Што рабіць, каб у вёсцы было культурна? Такі знак запытання паставіла моладзь Плёсак. Каб адказаць на гэтае пытанне 15 кастрычніка маладыя людзі сабраліся ў мясцовай бібліятэцы. Каля 20 асоб, якія належаць да Саюза вясковай моладзі, супольна дыскутавалі і ўзаемна раіліся над тым, каб зімовыя вечары былі вясёлыя і карысныя. Сход вяла бібліятэкар (сакратар ЗМВ) Зіна Гаўрылюк супольна з настаўніцай з вёскі Дэніскі Геняй Дамброўскай. Моладзь Плёсак уважна выслухала парад нашых дзеячак і падняла пастулаты адносна развіцця культуры ў зімовыя вечары. Перш за ўсё пастаноўлена арганізаваць мастацкі гурток. Вырашана таксама апекавацца мясцовай святліцай. Варта, каб за прыкладам плёскаўскай моладзі пайшлі іншыя вёскі. Таму, што зіма ўжо недалёка. Жадаем добрай, актыўнай, культурнай працы плёскаўскай моладзі. **Л. Леанюк.**
Плёскі

## У ПЛЯНЦЕ

У вёсцы Плянта (Гайнаўскі павет) першым пасеяў кузіку селянін Антон Грыцук. Нядаўна сабраў ён багаты ўраджай гэтай новай у нашым вясковым асяроддзі сельскагаспадарчай культуры. З 20 араў сабраў ён 80 цэнтнераў гэтай зялёнай пашы. Пасеяў ён таксама 25 араў кармавой капусты і сабраў яе каля 40 цэнтнераў (4 тоны). «Кішонка» атрымалася ў 60 цэнтнераў (6 тон!).

Некаторыя галоўкі рэпы (з кузіку) важылі 6,5—7 кілаграмаў.

✲

На сходзе Гуртка вясковых гаспадынь з Плянты, які адбыўся 8 лістапада г.г., жанчыны пастанавілі арганізаваць сабе парыкмахерскі пункт. Змяшчацца ён будзе ў доме аднаго жыхара Плянты, дзе жыве на кватэры фрызыерка — маладая дзяўчына Марыся Смактуновіч. Пункт будзе адкрыты пасля абеда ад 17⁰⁰ да 20⁰⁰ гадзіны, гэта значыць, калі Марыся вернецца з працы з Гайнаўкі. За прычоску жанчыны будуць плаціць па 20 зл., з гэтай сумы 5 зл. будзе ісці на Гурток вясковых гаспадынь. Ужо перададзена Марысі Смактуновіч неабходныя для стрыжкі прыборы.

Адначасова ўстаноўлена, што за аднаразовае выпажычэнне шаткаўніцы ў касу КВГ трэба будзе заплаціць 5 зл. На сходзе былі крытычныя заўвагі пад адрасам некаторых гаспадынь, якія кепска кансервавалі шаткаўніцу. Жанчыны з Плянты свае справы вырашаюць самі.

**Янка Цялушэцкі**
Ляўкова

## ВЕЧАРЫНКА Ў МІКЛАШЭВЕ

7 лістапада г.г. у Міклашэве, Гайнаўскага павета, партыйная арганізацыя наладзіла вечарыну, прысвечаную Вялікаму Кастрычніку. Было на ёй каля 150 асоб. Адкрыў урачыстасць сакратар ПОП, стары камуніст, Павел Матысюк. Даклад прачытала загадчыца школы Марыя Граматовіч. Затым школьнікі чыталі вершы, прысвечаныя Леніну і Рэвалюцыі. Аб Рэвалюцыі гаварыў таксама прысутны на вечарыне сакратар прапаганды ПК ПАРП тав. Бартосяк. На заканчэнне Гайнаўскае праўленне аддзела БГКТ наладзіла дэманстрацыю савецкага фільма. В. Б.

## ПУНКТ ЛЯСНЫХ ПРАДУКТАЎ

У тых вёсках Гайнаўшчыны, якія знаходзяцца па-суседску з Белавежскай пушчай або сярод пушчы, можна ўбачыць шыльды з надпісам: «Пункт лясных прадуктаў».

Такі пункт знаходзіцца таксама і ў Арэшкаве. Лясныя прадукты як: грыбы, ягады, кару крушыны, мёд і т.д. скупляе ў гэтай вёсцы Ніна Аверчук. У гэтым асеннім сезоне на гэты пункт было дастаўлена больш 1000 кг грыбоў, 300 кг кары крушыны і 500 кг мёду.

Асабліва мёд з лясных вёсак, як даказваюць знаўцы, мае высокія лекавыя якасці. (СМ)

## КАМАСАЦЫЯ Ў ТАНІЦЫ

Таніца Дольная ў Беластоцкім павеце налічвае 17 бедненькіх гаспадароў. Хоць зямлі мала, але было многа палосачак. Амаль кожны гаспадар меў у 34 кусочках сваё поле. Тут вельмі цяжка было апрацоўваць зямлю.

Зараз справа тут мяняецца. Сяляне на ўласны кошт нанялі спецыяліста, які праводзіць камасацыю зямлі. Хутка работа будзе закончана, і сяляне будуць працаваць на адным кавалку зямлі.

**«Чарот»**



Ляўкоўскія кантрасты. Фота: Я. Цялушэцкі

# КІНО

**Праграма на 5—10.XII.1967 г.**

### ГАЙНАЎСКІ ПАВЕТ

**Белавежа**

„Judex albo zbrodnia ukarana" (franc.), 5—6. „Bitwa nad Wołgą" (szwedzki), 7—8. „Foto Haber" (węgierski), 9—10.

**Кляшчэлі**

„Macario" (meksykański), 5—6. „Ostatni kurs" (polski), 7—8. „Weseli współlokatorzy" (radz.), 9—10.

**Дубіны**

„Matczyne serce" (radz.), „Pierwszy dzień wolności" (polski), 9—10.

**Нараўка**

„Zejście do piekła" (polski), „Człowiek z karabinem" (radz.), 6—10.

**Нарва**

„Wołga, Wołga" (radz.), „Miejsce dla jednego" (polski), 6—10.

**Чыжы**

„Upiór z Morsville" (czeski), „Zwyczajny faszyzm" (radz.), 6—10.

**Дубічы Царкоўныя**

„Skrytobójcy" (szwedzki), „Kozacy" (radz.), 6—10.

### БЕЛЬСКІ ПАВЕТ

**Боцькі**

„Wzgórze" (angl.), „Czas rozłąki" (radz.), 6—10.

**Орля**

„Biała pani" (czeski), „Zerwany most" (polski), 6—10.

**Райск**

„Szkoła grzeszników" (czeski), „Kochajmy syrenki" (polski), 6—10.

### БЕЛАСТОЦКІ ПАВЕТ

**Гарадок**

„Czarne i białe" (USA), „Gładka skóra" (franc.), 5—8.

**Міхалова**

„Druga młodość cioci" (węgierski), „Wojna trojańska" (włoski), 7—8. „Czerwony atrament" (węgierski), 9—10.

### САКОЛЬСКІ ПАВЕТ

**Крынкі**

„Najazd czarnego księcia" (radz.), 5—6. „Złodziej samochodów" (radz.), 7—8. „Fifi piórko" (franc.), 9—10.

**Шудзялава**

„Popioły" (polski), I i II s. 6—10.

### ДУБРОЎСКІ ПАВЕТ

**Сухаволя**

„Sabrina" (USA), „Flip, Flap i inni" (USA), 6—10.

**Новы Двор**

„Szyfry" (polski), „Dzwony dla bosych" (czeski), 9—10.

**Ліпск**

„Tygrys lubi świeże mięso" (francuski), „Odraza" (węgierski), 9—10.

**Ніва**

Adres redakcji: Białystok, ul Wesołowskiego 1. Telefony: red. naczelny 2-10-33, centrala 2-32-41 do 45. Warunki prenumeraty: miesięcznie — 2,40 zł kwartalnie — 7,20 zł, półrocznie — 14,40 zł, rocznie — 28,80 zł. Prenumeratę przyjmują wszystkie placówki pocztowe i listonosze. Wpłaty na prenumeratę indywidualną należy dokonywać na konto PUPiK „Ruch" Nr 102-7-161 NBP Białystok I Oddział Miejski. Na odwrocie blankietu należy podać okres prenumeraty i tytuł zamawianego pisma. Zamówienia ze zleceniem wysyłki za granicę przyjmuje — Przedsiębiorstwo Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych „Ruch" Warszawa, ul. Wronia 23. Nr konta PKO I-6-100024. Zamówienia z krajów europejskich jak i zamorskich należy kierować pod adresem CHZ „Ars Polona" Warszawa, Krakowskie Przedmieście 7. Obowiązuje przedpłata na konto NBP; Warszawa 2-6-51. Prenumerata roczna wraz z przesyłką zwykłą wynosi 4,70 $ w Europie, 5 $ — w USA.

BZGraf. M-3. NAKŁAD 7802



 

